НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 42 (831) 13 лістапада 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. В… авец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у…



## Незаменны сілавік Леанід Мальцаў

Рэпартаж з радзімы старшыні Памежнага камітэта. Старонка 9.



## БАТЭ: самы складаны сезон

Барысаўскі клуб зноў выйграў чэмпіянат. Старонка 15.

# Прыехалі…

Улады хочуць увесці падаткі на аўтамабілі і «дармаедаў». **Старонка 2.**



Фота зроблена 28 кастрычніка 2013 у Хоцімску.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Палітыка**

### «Так не робіцца, Аляксандр Рыгоравіч»

Барыс Батура не стрымаў поўнага крыўды жэста.
**Старонка 3.**



**Гутарка**

### «За тры гады можна зарабіць на кватэру ў Мінску»

Беларуска ў Венесуэле.
**Старонка 6.**



**Крымінал**

### Абвінавачвае байкераў

Гамяльчук патрабуе з мотаклуба 750 мільёнаў кампенсацыі. **Старонка 7.**



**Гісторыя**

### Парадаксальны Вацлаў Ластоўскі

Новыя факты пра былога прэм'ера БНР.
**Старонка 12.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Урад прапануе ўвесці падаткі на аўтамабілі і «дармаедаў»

У бюджэце бракуе грошай.

Палата прадстаўнікоў пачала разгляд праекта рэспубліканскага бюджэту на 2014. Сярод патрабаванняў МВФ і ЕўрАзЭС — бездэфіцытнасць гэтага дакумента.

Планаваныя выдаткі складаюць каля $22 мільярдаў. Напрыклад, толькі на абслугоўванне замежнага дзяржаўнага доўгу давядзецца аддаць больш за $1 мільярд.

Дацягнуць даходы да ўзроўню выдаткаў складана. Урад напланаваў атрымаць $2 мільярды ад прыватызацыі, а таксама прапанаваў некалькі незвычайных новаўвядзенняў.

Па-першае, нарэшце сфармуляваныя палажэнні «падатку на дармаедаў», пра магчымасць увядзення якога казаў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

У Беларусі пражывае каля 5,85 мільёна насельніцтва працаздольнага ўзросту — гэта падлікі па выніках апошняга перапісу. З іх у эканоміцы краіны занятыя 4,53 мільёна чалавек.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У 2011 абурэнне аўтамабілістаў прывяло да масавай акцыі пратэсту.

## З «дармаедаў» збяруць $125 мільёнаў, з кіроўцаў — яшчэ $200 мільёнаў

Астатнія нідзе не працуюць — гэта і афіцыйна зарэгістраваныя беспрацоўныя, і студэнты, і інваліды. Аднак сярод іх урад налічыў 445 тысяч чалавек, якія «фактычна паразітуюць на сацыяльнай палітыцы дзяржавы». Гэта цытата дзяржаўнай прапаганды.

І вось з гэтых людзей вырашана ўзяць грошы. Паводле словаў прадстаўніка Міністэрства фінансаў Святланы Крэтавай, прапануецца ўвесці штогадовы збор у памеры 20 базавых велічыняў. На сёння гэта 2,6 мільёна рублёў.

Калі б усе цяперашнія «дармаеды» заплацілі падатак, бюджэт мог бы атрымаць дадатковыя $125 мільёнаў. Зрэшты, нішто не перашкодзіць ім запісацца ў афіцыйныя беспрацоўныя, тым самым папсаваўшы статыстыку, і нават атрымліваць дзяржаўную дапамогу.

Другое планаванае новаўвядзенне закране яшчэ большую колькасць беларусаў. Гэта будзе «пошліна за допуск аўтамабіля да дарожнага руху». З кожнага аўтамабіліста дзяржава хоча ўзяць па 3-5 базавых велічыняў на год — 390-650 тысяч рублёў.

Па словах прадстаўніка Міністэрства фінансаў Алега Селіверстава, плацёж будзе разавым і сплачвацца як з грузавікоў, так і з легкавікоў.

На пачатак года ў краіне было зарэгістравана 3 818 тысяч транспартных сродкаў. Калі б уласнікі кожнага з іх сплацілі па 500 тысяч рублёў, дзяржава б атрымала каля $200 мільёнаў.

Лідар грамадскай арганізацыі «За аўто» Арцём Шаркоў не разумее, чаму аўтамабілісты мусяць плаціць за «допуск да руху».

«Кожны аўтаўладальнік плаціць дзяржаве падаткі. Гэта акцыз, уключаны ў кошт паліва. Частка гэтых сродкаў ідзе на ўтрыманне дарог і іншых элементаў інфраструктуры. Гэта і экалагічны падатак. Не трэба забываць і пра збор за рэгістрацыю аўтамабіля і за тэхагляд. Не зразумела, чым матываваная пошліна, калі яна будзе аднолькавай і для тых, хто штодня праязджае сотні кіламетраў, і для тых, хто карыстаецца машынай толькі на выхадных. Гэтая прапанова — нейкае вар'яцтва», — кажа ён.

**Ягор Марціновіч, Кірыла Хілько**

# Незаменны сілавік Леанід Мальцаў

Рэпартаж з радзімы старшыні Дзяржаўнага памежнага камітэта.

«Чулі, што Леанід Мальцаў стаў галоўным памежнікам?» — пытаемся ў стрыечнага брата ўплывовага генерал-палкоўніка. «Лёня? Ды не, ён жа сакратар у Радзе бяспекі», — не верыць той. «Ужо не сакратар. Цяпер памежнік... Я чытала», — перабівае яго жонка.

Заблытацца ў кіраўнічых пасадах 64-гадовага Леаніда Мальцава проста: міністр абароны — адстаўка — намеснік старшыні Рады бяспекі — зноў міністр абароны — старшыня Рады бяспекі — выканаўца абавязкаў старшыні КДБ — старшыня Дзяржаўнага памежнага камітэта...

### Пустая радзіма

Адзін з нешматлікіх сілавікоў беларускага паходжання нарадзіўся на Слонімшчыне, зусім блізка ад славутых Жыровічаў, «праваслаўнай Мекі Беларусі», як называюць мястэчка ў турыстычных даведніках.

Назву вёскі Вяценеўка, малой радзімы Мальцава, скланяюць на розны лад. У некаторых крыніцах яна называецца як «Віцінеўка», на непісьменным дарожным указальніку зафіксаваная «Вяценяўка», а ў расійскамоўным навігатары фігуруе вычурная «Веценювка». Але ўжо праз некалькі гадоў моўнае пытанне можа знікнуць. Калі вымрэ і сама вёска... Цяпер у Вяценеўцы жывуць толькі ў трох хатах, хоць стагоддзе таму тут налічвалася ажно 330 чалавек!

750-старонкавы том слонімскай «Памяці» не пакідае сведчанняў ні пра аднаго «даваеннага» Мальцава ў тых краях. Затое ёсць дзясяткі людзей з прозвішчам Малец. Ці не змянілася прозвішча пад расійскую традыцыю, гадаюць у інтэрнэце?

Разгадка аказваецца простай. Бацька міністра, Сямён Данілавіч Мальцаў, нарадзіўся ў Арлоўскай вобласці Расіі.

Знайсці кагосьці з Мальцавых у напаўвымерлай Вяценеўцы не ўдаецца. Тубыльцы раяць пашукаць сваякоў міністра ў суседніх Сучках і Пляшках. Савецкая кампанія па перайменаванні населеных пунктаў на больш мілагучныя адпаведнікі зрабіла іх Коласавым і Партызанаўкай.

**Працяг на старонцы 9.**

### Сцісла

**Рабочы МАЗа, якому зацiснула ногі канвеерам, памёр**

Інцыдэнт здарыўся 26 кастрычніка ў стружкаўборачным канвееры ў цэху мастоў. Хлопцу заціснула абедзве нагі, медыкам не ўдалося яго выратаваць — хлопец памёр у рэанімацыі.

**Курэйчык стварыў шпіёнскую камедыю для Міхалкова**

«Мы хочам аздзымаць фільм летам, гэта вельмі сонечная карціна, якая будзе здымацца ў некалькіх краінах. Тады і з'явяцца новыя падрабязнасці», — кажа Курэйчык.

**Марачкін прэзентуе «апальныя» працы 60-х**

22 лістапада ў Галерэі мастацтва (Мінск, пр. Незалежнасці, 12) адкрыецца выстава працаў аднаго з самых яскравых мастакоў Беларусі Алеся Марачкіна пад назвай «СтART 60». Гэта працы 1960-х, якія рэдка дэманструюцца на выставах.

**ЛМ, ЮУ**

### Рэкамендуем

## Чаму савецкая акупацыя Беларусі была акупацыяй

Піша Алесь Чайчыц.

## Няможна дэманізаваць БССР!

Піша Сяргей Богдан.

**Чытайце дыскусію на nn.by.**

### Апытанне на nn.by

**Ці Вы лічыце 1918—1991 перыядам савецкай акупацыі Беларусі?**

| | | |
|---|---|---|
| так | 1236 | 56% |
| не | 205 | 9% |
| нічога добрага беларусам той час не даў, але гэта была не акупацыя | 474 | 21% |
| БССР няможна дэманізаваць, бо гэта быў этап станаўлення дзяржаўнасці | 296 | 3% |

Усяго прагаласавала 2211.

### Самае чытанае на nn.by за 6-12 лістапада

1. Скандальная журналістка Ася Паплаўская: Не хачу быць бабай з яйцамі
2. Палацы беларускіх мільянераў — фоты + каментары архітэктара
3. Разрыў кішак. Адзіны сын сям'і Цімафеевых з Наваполацка памёр пасля затрымання міліцыяй
4. Зміцер Дашкевіч асуджаны на трое сутак
5. Іншы Макс Корж — найлепшыя песні і відэа з бел-чырвона-белай эпохі
6. «Няма лепшых, чым нашы славянкі»: польскі кліп «Мы славяне» ўзарваў Youtube
7. Фотафакт: Лукашэнка хадзіў па Барысаўдрэве ў брудным абутку
8. Ідэалагічная дыверсія ў цэнтры Мінска — фотафакт
9. Лойка — старшыні КДБ: «Разбярыцеся з гандлем расійскімі сцяжкамі!»
10. Новая мода: моладзь стварае відэаролікі з вершамі па-беларуску

# «Так не робіцца, Аляксандр Рыгоравіч»

Візіт Лукашэнкі на «Барысаўдрэў» скончыўся **гучнымі звальненнямі.**

«Прэзідэнт адхіліўся ад запланаванага маршруту», — паведамлялі дзяржаўныя тэлеканалы, расказваючы пра візіт Лукашэнкі на «Барысаўдрэў». А ўжо там пабачыў прыклады безгаспадарчасці. Дзесьці не насыпана шчэбёнка, дзесьці не вывезена смецце, дзесьці пустуюць будынкі, якія Лукашэнка назваў «туалетамі». Крычаў, што робяць да яго прыездаў пацёмкінскія вёскі. Ага, нібыта ў першы раз. «Я прайдуся па гэтай гразі, але вы тут застанецеся назаўсёды».

Старшыня Мінскага аблвыканкама Барыс Батура быў адзіным, хто неяк адказваў Лукашэнку. «Прасіце не дайшлі рукі», — сказаў ён. Калі ж кіраўнік дзяржавы стаў вучыць, як трэба было рабіць, Батура адказаў: «Так не робіцца, Аляксандр Рыгоравіч». Магчыма, такая дзёрзкасць і каштавала чыноўніку пасады.

«Барыса Батуру адхіліць ад займанай пасады і накіраваць сюды кіраўніком», — сказаў Лукашэнка. Батура адразу апусціў вочы долу. «Калі праз тры дні не выйдзе на працу, распачаць паводле яго крымінальную справу», — працягнуў беларускі лідар. У гэты момант тэлекамеры выхапілі характэрны жэст галавой Батуры, здавалася, што ў тое імгненне яму хацелася пасляць усё гэта далёка-далёка.

Праўда, з пазнейшых навін гэта выразалі. Як і загад Лукашэнкі, каб Батура ўзначаліў «Барысаўдрэў». Старшыню проста звольнілі без пераводу на іншую працу.

Таксама пасады пазбавіўся намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Тур, старшыня канцэрна «Беллеспапераппрам» Пераслаўцаў. Строгія вымовы абвешчаныя віцэ-прэм'еру Уладзіміру Сямашку (з магчымым звальненнем у снежні), старшыні дзяржкантролю Аляксандру Якабсону, кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Андрэю Кабякову.

Што ж менавіта выклікала такі шал у кіраўніка дзяржавы? Мы папыталіся ў лідара нефармальнай ініцыятывы «За чысты Барысаў!» Сяргея Салаша. «Заводу ўжо больш за 100 гадоў. Што вырабляюць на «Барысаўдрэве»? У першую чаргу фанеру. На спецыяльных станках зразаюць пласты дрэва, аднак ад кожнага дрэва застаецца многа адходаў, некаторыя проста не ўлазяць у гэтыя станкі, плюс карэнне, камлі, якія не выкарыстаеш. Застаецца яшчэ гэтак званы «аловак», з якога ўжо немагчыма зняць пласт для фанеры. Яны прадаюцца, але пакупніка можна не заўсёды знайсці. І вось усе гэтыя адходы дзесяцігоддзямі ляжаць на прадпрыемстве, гніюць там. Ёсць мініЦЭЦ, але яна можа перапрацаваць увесь гэты хлам».


Злева направа: дырэктар «Барысаўдрэва» Уладзімір Мальцаў, Аляксандр Лукашэнка і Барыс Батура.

Кажуць, што кіраўніцтва горада нешта робіць, каб разруліць сітуацыю, аднак у Барысаве яшчэ ёсць тэрміновы аб'ект — будаўніцтва звышсучаснага стадыёна.

Сяргей Салаш кажа, што патрэбна некалькі месяцаў працы, толькі каб вывезці ўсё гэтае смецце. «Па цане гэта будзе роўна будаўніцтву невялікага завода».

Эканаміст Зміцер Бабіцкі родам з Барысава. Ён кажа, што «Барысаўдрэў» — гэта тыповае савецкае прадпрыемства. «Там куча непатрэбных будынкаў, якія проста прастойваюць. Гіганцкая тэрыторыя. У нас ніхто не задаецца пытаннем, навошта яна такая вялізная. На добры розум трэба было б зменшыць тэрыторыі, а непатрэбныя прадаць інвестару ці зрабіць там гарадскі парк, але ў нас так не прынята. Таму, напрыклад, збанкрутавала барысаўская «Піянінка».

Сяргей Салаш яшчэ звяртае ўвагу на кепскі экалагічны стан на «Барысаўдрэве». «Да мяне звяртаюцца рабочыя. У цэху па вытворчасці пліт МДФ перавышэнні дапусцімых нормаў для працы. Людзі скардзяцца на боль у вачах, на глытанне пылу. Кажуць, што будуць звальняцца, хоць і трэба карміць сям'ю».

**Зміцер Панкавец**

## «Я не гаспадзін, я — таварыш!»: Пяць фактаў пра Барыса Батуру

**1. Быў міністрам яшчэ ў БССР**

Барыс Батура — ветэран чыноўніцкага корпусу. Яму 66 гадоў. Нарадзіўся ў Ваўкавыску. Кар'еру будаваў у сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Напрыканцы існавання БССР нават пабыў міністрам ЖКГ. Да яго гэтую пасаду займаў сённяшні прэм'ер Міхаіл Мясніковіч. Іх звязваюць даўнія сувязі і знаёмства. Агулам міністрам ЖКГ Батура прабыў анамальна доўга ад 1987 да 1999.

**2. Начальнік Магілёўшчыны**

Калі Батуру прызначалі кіраўніком Магілёўшчыны (2000), вобласць была ў эканамічнай яме. Аднак за гады кіравання Батуры крызіс атрымалася пераадолець. Вобласць была адной з першых у краіне па ўцягванні замежных інвестыцый, найперш расейскіх. Увогуле, Батура мае добрыя кантакты з расейскімі бізнэсоўцамі. Казалі, што некалі яму ставілі ў віну ў Адміністрацыі прэзідэнта частыя камандзіроўкі ў Расію.

**3. У жанчын дыханне становіцца больш частым**

На невялікі час з Магілёва Батуру перавялі ў Мінск на пасаду спікера Савета рэспублікі. Прайшоў ён туды па «прэзідэнцкай квоце». Былы старшыня Гомельскага аблвыканкама, а сёння старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон так прадставіў Батуру: «Ён імпазантны мужчына, калі жанчыны праходзяць міма, то ў іх дыханне становіцца больш частым». Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына тады папыталася, а ці не перашкодзіць гэта ў працы.

**4. Казаў, што зарабляе14 мільёнаў**

Праўда, доўга засіджвацца ў парламенце Батуру не атрымалася. Прычым, як паказваюць некаторыя сведчанні, ён сам папрасіўся займаць пасаду старшыні Мінскага аблвыканкама. У інтэрв'ю тэлеканалу СТВ прызнаваўся, што сам ездзіць на працу на машыне, шафёра не мае, а таксама агучыў заробак. «Ну, нармальны заробак. Дзякуй кіраўніку дзяржавы. Апошнім часам выходзіць дзесьці 14 мільёнаў». Адзіным сваім хобі Батура называў гульню ў вялікі тэніс. Хаця сам узначальваў федэрацыю валейбола.

**5. «Я нічога не планую, у нас прэзідэнт усё плануе»**

За час працы губернатарам Міншчыны Батура запомніўся лабіраваннем інтарэсаў кітайскага тэхналагічнага парку пад Смалявічамі, працаўнікаў жа называў «пячорным людзьмі». Размаўляючы з мясцовымі жыхарамі ў 2012 годзе, ён сказаў наступную фразу: «Я не гаспадзін, я — таварыш».

Хаця гэта не адзіны афарызм ад чыноўніка. Яшчэ старшынёй Магілёўскага аблвыканкама Батура сказаў цікавую фразу: «Я нічога не планую. У нас прэзідэнт усё плануе».

Цяпер Батура гуляе па горадзе. На працу больш уладкоўвацца не збіраецца.

**ЗП**

# Поўны «атас»

**Апытанне ў Барысаве.** Чаму тармозіцца мадэрнізацыя на «Барысаўдрэве»?

Бардак у іх там, вось і ўсё. Сам на заводзе не быў, але бачыў па тэлевізары — усюды бардак. Не хочуць яны працаваць. Каб завод нармальна запрацаваў, трэба змяніць усё кіраўніцтва, моладзь запрасіць.

Здаецца, добра працаваў завод спачатку. Я бачыла, там рамонт рабілі, вокны паставілі. А зараз як паглядзела па навінах, то там поўны «атас». Проста не хочуць працаваць. Калі б ім хто даў «трындзюлей», тады б, можа, і запрацавалі. Аляксандр Рыгоравіч прыехаў, даў, можа, зараз нешта пойдзе.

Не спраўляецца маладых хлопец (дырэктар), не дапамагаюць яму. Кіраўніцтва Барысава не паставіла яму будаўнікоў у час. Можа, спецыялістаў не хапае. Ён толькі зараз кадры падабраў, амаль год збіраў людзей, з якімі можа працаваць. Калі прыйшоў да кіраўніцтва, кадраў не было, усе сышлі. Калі будуць нармальна плаціць, нармальнае стаўленне да людзей, народ пойдзе, і завод падымецца.

На заводзе ўвесь час змяняліся дырэктары. І гэтаму чалавеку, якога паставілі, патрэбна была добрая падтрымка. Гэта новы чалавек, таму на яго раўці не варта, а трэба было цягам года дапамагаць. Ён жа працаваў на заводзе інжынерам, я пра яго добрыя водгукі чула. Мой сусед з ім працаваў. А тая тэрыторыя, якую паказалі па тэлебачанні, яна была яшчэ горшай.

Зараз няма такіх дырэктараў, якія б хацелі палепшыць стан прадпрыемства. Толькі свой дабрабыт. Я не бачу ніводнага прадпрыемства ў Барысаве, якое б хацела палепшыць дабрабыт горада, свайго прадпрыемства, рабочых.

Лічу, што дырэктар заслужана займае сваю пасаду. Думаю, справіцца са сваімі абавязкамі. Калі б не было ў нас бюракраты, мадэрнізацыю можна было б зрабіць у час. У нас дужа многа бюракратаў, і ўсе баяцца за свае крэсла. Яны толькі перашкаджаюць працаваць людзям, звальняць іх трэба.

Не кожнаму дадзена кіраваць. Кіраваць павінен чалавек, які адораны прыродай: арганізоўвае, любіць справу і аддаецца ёй цалкам. Сёння ў нас многія чыноўнікі карыстаюцца народнымі дабротамі і не дбаюць пра завод, людзей.

Гляджу станоўча на тое, каб аддаць прадпрыемства ў прыватныя рукі. Трэба, каб камусьці належала, каб быў гаспадар, каб гэта была яго справа. Вопыт і жыццё паказваюць, калі гаспадар укладае сродкі, ён у сябе красці не будзе.

**Апыталі Аксана Рудовіч, Ірына Арахоўская**

# Уцякач падпаліў хату ўцекачу

**Два беларусы** не паразумеліся ў Польшчы.

13 верасня ў польскай вёсцы Брайнікі цалкам згарэў адзін катэдж, а другі быў пашкоджаны. Пра гэтае лакальнае здарэнне беларусы наўрад ці б даведаліся, калі б не адна акалічнасць: катэджы падпаліў грамадскі актывіст з Клецка і палітуцякач Сяргей Панамароў.

### Ад Клецка да Брайнікаў

У Беларусі Панамароў быў вядомы як выдавец бюлетэня «Бойкі Клецк». Ён быў актывістам Руху «За свабоду», БНФ, АГП. Панамароў з'ехаў у Польшчу ў жніўні 2008 года. Сам ён сцвярджаў, што ўцёк праз пагрозу жыццю: нібыта знаёмы міліцыянт папярэдзіў, што з «Панамаровым загадана канчаць».

«Спачатку Сяргей здымаў пакой у невялікім горадзе Камароў пад Варшавай, працаваў на аднаго гаспадара. Той вельмі добра ставіўся да яго, забяспечваў працай нават узімку, калі жыццё ў польскай правінцыі заміране, бо ведаў, што Сяргею трэба плаціць 220 даляраў штомесяц за жыллё», — расказвае жонка Сяргея Панамарова Святлана, якая засталася ў Клецку.

Аднак гэтым летам Панамарову паступіла іншая прапанова ад старшыні праўлення фонду «Адкрытая Беларусь» Змітра Сурбы.

«Да Сяргея некалькі разоў прыязджаў Зміцер, прапаноўваў яму ехаць разам з ім на Мазурскія азёры. Гэтая вобласць лічыцца курортнай зонай, і Сурба казаў, што атрымаў вялікі крэдыт і хоча будаваць там домікі для адпачынку. Сяргей раіўся са мной, пытаўся, ці трэба ехаць. Я адгаворвала яго, бо знаёмыя людзі папярэджвалі пра сумнеўную рэпутацыю Сурбы. Аднак Сурба быў вельмі настойлівы», — працягвае Святлана.

### Апошняя кропля

Панамароў вырашыў працаваць на Сурбу, аднак умовы ў вёсцы Брайнікі аказаліся далёкімі ад агавораных.

«30 ліпеня Сяргей размаўляў са мною праз скайп і сказаў, што пераязджае, таму, магчыма, доўгі час сувязі з ім не будзе. 17 жніўня ён патэлефанаваў, сказаў, што ў яго ўсё добра, уладкаваўся на новым месцы, аднак гучаў Сяргей не вельмі ўпэўнена і аптымістычна, таму я вырашыла яго наведаць.



**Зміцер Сурба абвешчаны ў міжнародны вышук.**

Калі я прыехала, у мяне быў шок. Сяргея пасялілі ў дзіравым вагончыку. Да бліжэйшай крыніцы з вадою было 300 метраў, ежу даводзілася гатаваць на вогнішчы. З грашыма таксама была бяда. Сурба то зацягваў выплату заробка, то прывозіў меней за абяцанае. Таму Сяргей нават ежу ў краме браў на павер».

Святлана кажа, што бачыла Сурбу падчас візіту да мужа. «Ён нават не падышоў, не павітаўся!» — абураецца жанчына.

12 верасня Панамароў звязаўся са Святланай праз скайп. Ён расказаў, што Сурба прывёз яшчэ аднаго рабочага і мадэм, таму цяпер у яго будзе доступ у інтэрнэт.

«Мы паразмаўлялі, а на наступны дзень, а 4:30 раніцы, мне патэлефанаваў Сяргей. Расказаў, што зрабіў. Я нават не зразумела спачатку, крычала яму, каб хутка патушыў агонь. Але ён патлумачыў, што ўсё ўжо згарэла, і ён сядзіць і чакае паліцыю. Ён сказаў, што Сурба зняў для другога рабочага пакой у гатэлі, а яго пакінуў у вагончыку. Гэта стала апошняй кропляй», — кажа Святлана.

### Паліцыя шкадавала, але арыштавала

Святлана кажа, што ў паліцыі да Сяргея паставіліся з паразуменнем. «Пракурор пытаўся ў яго, чаму не пайшоў да яго, маўляў, становішча было падобнае да рабства. Мне сказалі, вызвалілі б яго пад падпіску, калі б я зняла жытло. Але я пенсіянерка і не маю такіх сродкаў. Сурба мне казаў, што асабіста супраць Сяргея нічога не мае і нават не заяўляў на яго ў паліцыю — заяву падаў яго польскі партнёр».

Панамароў застанецца пад вартаю да 13 студзеня. Польскія СМІ паведамляюць, што памер шкоды складае 150 тысячаў злотых (48 тысяч даляраў ЗША). Паводле польскага крымінальнага кодэкса, за гэта Панамарова могуць пакараць зняволеннем да пяці гадоў. А калі ж абвінавачванне перакваліфікуюць у наўмысны падпал — да 10.




**Сяргей Панамароў быў актывістам многіх партый і рухаў.**

### Таямнічыя героі

Пра Змітра Сурбу вядома няшмат. Ён з'яўляецца старшынёю праўлення польскага фонду «Адкрытая Беларусь», створанага ў 2010 у якасці «ініцыятывы, якая выходзіць з неабходнасці садзейнічання дэмакратычным пераўтварэнням ва Усходняй Еўропе» і займаецца «маральнай і матэрыяльнай падтрымкай беларусаў у барацьбе за свабоду і вяршэнства права ў сваёй краіне».

На сайце фонду, які мае толькі польскамоўную версію, асноўнай задачай пазначаны распаўсюд інфармацыі аб сітуацыі ў Беларусі. Там жа паведамляецца, што Сурба быў членам АГП і за фінансаванне гарадзенскай апазіцыі ў 2006 быў вымушаны з'ехаць у Польшчу, дзе ў 2010 атрымаў палітычны прытулак. Цяпер займаецца прыватным бізнэсам. Таксама Сурба аб'яўлены беларускімі ўладамі ў вышук па лініі Інтэрпала за «крадзеж, кантрабанду і злоснае хуліганства».

У біяграфіі Сяргея Панамарова таксама хапае цёмных момантаў. Ён нарадзіўся ў 1951 годзе ва Усходняй Сібіры. Панамароў расказваў, што яго дзедам быў крымскі татарын, які «падараваў сябе», а яго маці была вымушаная выракчыся бацькі і нацыянальнасці. Таксама вядома, што ён быў асуджаны за забойства. Сам Панамароў піша, што «ў бойцы забіў афіцэра» і для яго прасілі вышэйшую меру, аднак замянілі пакаранне на 10-гадовае зняволенне.

У Беларусь Панамароў пераехаў у 1989, і ўжо ў Клецку адкрыў прыватную майстэрню, якую ўлады забралі, калі жонка Панамарова Святлана балатавалася ў парламент у 2004.

Яўген Крэйда

# Гэнік Лойка — старшыні КДБ: «Разбярыцеся з гандлем расійскімі сцяжкамі!»

Таксама Лойка просіць Валерыя Вакульчыка **пакараць** сваіх падначаленых **за бяздзейнсць.**

«Шаноўны спадар старшыня! Апошнім часам у нашай краіне пачасціліся выпадкі замаху на дзяржаўны суверэнітэт Беларусі. Грамадзяне краіны заўважаюць то тут, то там у кабінах грамадскага і службовага транспарту сцягі чужой краіны — РФ», — піша скульптар Гэнік Лойка.

Лойка нават склаў спіс аўтобусаў з васьмі пунктаў, кіроўцы якіх возяць у кабінах сцягі суседняй дзяржавы. Гэнік Лойка ўпэўнены, што ліквідацыя такіх спробаў «замаху на суверэнітэт» — справа менавіта КДБ, якой камітэт, аднак, не дае рады.

«Дзяржаўны сцяг — гэта не цацка, а канкрэтны палітычны сімвал канкрэтнай дзяржавы. Публічнае ўжыванне такога сімвалу чужой дзяржавы азначае альбо акупацыю роднага краю, альбо правакацыйна-палітычную акцыю, прысвечаную чужой дзяржаве, на правядзенне якой неабходная санкцыя органаў мясцовай улады», — піша Лойка.

Кірыла Хілько

**Цытата**



**Мілінкевіч: Канкурэнтам Лукашэнкі на выбарах павінен стаць нехта малады**

«На маю думку, нам трэба дбаць пра ўзмацненне пазіцый усіх дэмакратычных сіл і раскруціць на лідара чалавека, якога мы не «знішчым» адразу пасля выбараў. Я выступаю за тое, каб гэта быў адносна малады чалавек. Маладых і прыстойных хапае. Але разам з тым важная і біяграфія. Бо людзі часта пытаюць: «А чым ён кіраваў, чаго дасягнуў?» — сказаў лідар Руху «За Свабоду», кандыдат у прэзідэнты на выбарах-2006 Аляксандр Мілінкевіч.

**Сцісла**

**Віктар Лукашэнка ў ААЭ**

З паведамленняў арабскіх СМІ стала вядома, што старэйшы сын кіраўніка дзяржавы правёў перамовы з высокапастаўленымі чыноўнікамі ААЭ і наведаўся на этап Чэмпіянату свету па аўтагонках у класе «Формула-1» у Абу-Дабі.

**Рахмона пераабралі**

Эмамалі Рахмон пераабраны прэзідэнтам Таджыкістана. Паводле афіцыйных лічбаў, ён набраў 84% галасоў. Іншымі кандыдатамі былі прадстаўнікі псеўдаапазіцыі. Асноўны апазіцыйны кандыдат Айніхол Бабаназарава (Ісламская партыя) не была зарэгістраваная. Рахмон кіруе Таджыкістанам ад 1994 года, які і Лукашэнка Беларуссю.

**Яроменак усё ж сядзе**

Прысуд аб трохмесячным арышце былому палітвязню Уладзіміру Яроменку пакінуты ў сіле. Яроменку вінавацяць у парушэнні ўмоваў міліцэйскага нагляду, які быў замацаваны па справе Плошчы.

**Пяць сутак за майку**

Жыхара Стоўбцаў Леаніда Смажа затрымалі 10 лістапада ў Мінску пасля жалобнага шэсця і мітынгу ў Лошыцкім Яры. На акцыю ён прыйшоў у майцы «За Беларусь без дыктатуры». Назаўтра яго асудзілі на 5 сутак арышту.

ЗП

# Чаму спыніўся рост ВУП Беларусі?

**Прадукцыйнасць працы ў Беларусі** істотна адстае ад еўрапейскіх краін.

Урад разлічваў, што ВУП краіны вырасце на 8,5%. Аднак па выніках трох кварталаў лічба склала ўсяго 1,1%, і тое часткова за кошт змены метадалогіі падліку.

Чаму эканоміка Беларусі больш не расце? Адказ на гэтае пытанне імкнуліся даць эканамісты Зміцер Крук і Кацярына Барнукова падчас прэзентацыі на Кастрычніцкім эканамічным форуме, арганізаваным Даследчым цэнтрам ІПМ.

Зміцер Крук звяртае ўвагу, што пачынаючы з 2008-га галоўным фактарам росту беларускай эканомікі з'яўляецца нарошчванне прамысловых магутнасцяў. А вось прадукцыйнасць расла значна меншымі тэмпамі, фактычна не змяніўшыся. Вычарпаўшы свой патэнцыял, яна стала асноўнай перашкодай для росту эканомікі.

Адну з асноўных прычын такой сітуацыі эксперты бачаць у неэфектыўным дырэктыўным крэдытаванні.

Зміцер Крук прааналізаваў рост прадукцыйнасці па галінах беларускай эканомікі. Ён быў дасягнуты толькі ў трох сектарах: паліўным (у тым ліку дзякуючы льготнай расійскай нафце), хімічным (экспарт растваральнікаў) і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. Яе росквіт эксперт тлумачыць штучным стымуляваннем попыту ўнутры краіны.

Прадукцыйнасць эканомікі значна адстае ад паказчыкаў у еўрапейскіх краінах, і адставанне скарачаецца надзвычай марудна. Напрыклад, у 2000-м беларуская прадукцыйнасць складала 25% у параўнанні са шведскай, а ў 2010-м — 30%. Прычым прадукцыйнасць прамысловасці адстае ў найбольшай ступені.

«Зніжэнне росту эканомікі — гэта не наступства сусветнага крызісу, а сістэмная праблема, звязаная з нізкай прадукцыйнасцю. А гэта страта канкурэнтаздольнасці», — падсумоўвае Кацярына Барнукова.

Што трэба рабіць у атрыманай сітуацыі? Эксперты раяць чыноўнікам забяспечыць свабоднае пераразмеркаванне рэсурсаў, што павялічыць прадукцыйнасць.

Аднак неспалучальнасць існуючай сацыяльна-эканамічнай праграмы развіцця Беларусі з гэтай прапанovай бачная нават не эканамістам.

**Ягор Марціновіч**









**Тэмп росту ВУП.**



## ІП-шнікам дазволяць распрадаць адзенне без сертыфікатаў?

Новы тэхрэгламент увядуць **з 1 студзеня 2014**.

Беларускія дробныя прадпрымальнікі застаюцца ў чаканні новых правілаў гандлю адзеннем. Чыноўнікі патрабуюць ад іх афармляць сертыфікаты якасці на кожную партыю тавару, але гандляры супраціўляюцца: гэта запатрабуе дадатковых выдаткаў. Увядзенне сертыфікатаў было запланавана на 1 ліпеня 2014-га, аднак віцэ-прэм'ер Пятро Пракаповіч раптоўна агучыў новую дату: 1 снежня 2013-га. Абураныя прадпрымальнікі пагражалі забастоўкамі.

Праект указа Аляксандра Лукашэнкі ўтрымлівае чарговае «кампраміснае» рашэнне. Згодна з ім, тэхнічны рэгламент уступіць у сілу 1 студзеня 2014-га. Пры гэтым прадпрымальнікам будзе дазволена распрадаваць без сертыфікатаў тавар, завезены да ўказанай даты. Для гэтага органамі кантролю будзе праведзена інвентарызацыя.

**ЯМ**

## Сцісла

### Новыя прэтэндэнты на «Уралкалій»

Расійскія СМІ называюць уладальніка «Уралхіма» Дзмітрыя Мазепіна ў якасці патэнцыйнага партнёра мільярдэра Міхаіла Прохарава для выкупу акцый «Уралкалія» ў Сулеймана Керымава. Мазепін нарадзіўся ў Мінску і скончыў Сувораўскае вучылішча. У пачатку года яго называлі адным з магчымых прэтэндэнтаў на пасаду беларускага віцэ-прэм'ера.

### Золатавалютныя рэзервы зменшыліся на $575 мільёнаў

Гэта рэкорднае падзенне, роўнае якому здаралася толькі напярэдадні крызісу 2011-га года. У запасах засталося $6,8 мільярда. Падзенне выклікана перадусім павышаным попытам прадпрыемстваў і людзей на валюту: Беларусь больш купляе за мяжой, чым прадае. Акрамя таго, на кастрычнік прыпалі найбольшыя выплаты па замежных пазыках.

### Чыж прадае рэстараны

На продаж выстаўленыя рэстаран узбекскай кухні «Бухара» і адзін з «Салодкіх фальваркаў», якія знаходзяцца ў Мінску ў адным будынку.

За абедзве кропкі грамадскага харчавання ўласнік кампаніі «Трайпл» Юрый Чыж просіць $2 мільёны.

### Інфляцыя разганяецца

У кастрычніку цэны на спажывецкія тавары і паслугі выраслі на 1,9%. Ад пачатку года інфляцыя дасягнула 12%. Афіцыйны гадавы прагноз інфляцыі складае гэтыя самыя 12%, аднак дададуцца ж яшчэ рост за лістапад і снежань.

### «Керамін» данацыяналізуюць

Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў давесці дзяржаўную долю ў ААТ «Керамін» да 80%. На дадзены момант дзяржава сабрала 62% акцый кампаніі, рэшта ў былых работнікаў прадпрыемства. Яшчэ пазалетась у дзяржавы было толькі 3%.

**СГ, ЯМ**

# «Варым баршчы, каб ашчадзіць і назбіраць на мінскую кватэру»

**Беларусы працуюць у Венесуэле**, каб вырашыць жыллёвае пытанне на радзіме.

«З сацыялістычным сонечным прывітаннем!» — піша Вольга ў лісце, як сапраўдная венесуэлка. Яна адпрацоўвае ўжо не першы кантракт у камерцыйна-прававым аддзеле. Адпраўлялася спачатку на год, а пасля вырашыла застацца яшчэ.


У такіх дамах жывуць венесуэльцы.

### «Падышоў, прыстрашыў, забраў...»

**«Наша Ніва»: Чаму працягнулі кантракт?**

**Вольга:** Як кажуць беларусы ў сваім асяродку, Венесуэла зацягвае. У Беларусі крызіс, а тут можна зарабіць. Акрамя таго, тут працуеш не ва ўмовах Крайняй Поўначы. У Венесуэле сонейка, мора, горы — кожны знойдзе адпачынак на свой густ.

Я працую на адным месцы ад пачатку. Выбар беларускіх кампаній тут невялікі.

**«НН»:У Беларусі ўсё менш увагі надаецца працы ў Венесуэле. Колькасць ахвотных туды ехаць зменшылася?**

**Вольга:** Наконт колькасці не адкажу, бо кадравыя пытанні вырашаюцца ў Мінску. Адзначу, што вакантных месцаў не застаецца — заўсёды знаходзяцца ахвотныя працаваць. Ёсць і такія, хто не хоча нават ехаць у адпачынак дадому, бо баяцца, што потым не вернуцца. Сітуацыя нестабільная. Летась, напрыклад, тыя, хто паехаў на Новы год у Беларусь, доўгі час не маглі вярнуцца назад і былі вымушаны браць дадатковы адпачынак за свой кошт.

**«НН»: Узроўнем нашай працы венесуэльцы задаволеныя?**

**Вольга:** Ці задаволеныя — гэта пытанне палітычнае. Пабудаваныя заводы працуюць, у зададзеных дамах жывуць людзі, новыя кантракты падпісваюцца — значыцца, у працы беларусаў зацікаўлены. Агрэхі не здараюцца толькі там, дзе нічога не робіцца. Як сярод беларусаў, так і сярод венесуэльцаў хапае спецыялістаў высокакваліфікаваных і не вельмі. Лягчэй за ўсё перакласці хібы на чужыя плечы, таму можа адзін на аднаго наракаць. Але ж усё ўзгадняецца двума бакамі, і кожны ведае, за што адказвае.

**«НН»: За гэты час не даводзілася трапіць у непрыемныя сітуацыі? Венесуэла ўсё-ткі небяспечная краіна…**

**Вольга:** І я трапляла, і знаёмыя. Сітуацыя ў краіне пагоршала, таму і пачасціліся такія здарэнні. А можа, зладзеі проста аблюбавалі раён, дзе ходзяць беларусы... Усё вельмі проста: падышоў, прыстрашыў, забраў. Большасць не супраціўляецца, аддае ўсё, што мае ў кішэнях. Ніхто не ведае, што ў гэтых маландрасаў (злодзеяў) за спінай: нож, пісталет ці нічога. Аднаму нашаму таварышу пашанцавала: прадэманстраваў некалькі барцоўскіх прыёмаў, выхапіў пісталет у нападніка. На шчасце, ён быў цацачны. Заслужыў апладысменты. Але, думаю, не варта ў такіх сітуацыях выпрабоўваць лёс.


Гэтыя пяціпавярховікі на 1120 кватэр у раёне вайсковай базы «Лібертадор» (штат Арагуа) пабудавалі беларусы сёлета.

MFA.GOV.BY

**«НН»: А як складваецца асабістае жыццё? Можа, з венесуэльцам завялі раман?**

**Вольга:** Праца не на першым месцы, але ж свайго венесуэльскага Хуана не знайшла, хоць і не шукала. Навошта нам чужыя, калі ў нас і сваіх цудоўных хлопцаў хапае? Свая кашуля бліжэй да цела.


Графіці: Чавэс і Мадура. Дзяржідэолагі спрабуюць сыграць на патрыятычных пачуццях.

### «За тры гады можна зарабіць на аднапакаёўку ў Мінску»

**«НН»: Колькі ўсё ж можна зарабіць там?**

**Вольга:** Дастаткова. Усё залежыць ад спецыяльнасці, ад кваліфікаванасці. Нехта зарабляе грошы, нехта атрымлівае вопыт, нехта — уражанні. Акрамя таго, у кожнага свае меркі патрэбаў. Але ж з пустымі кішэнямі яшчэ ніхто не з'язджаў.

**«НН»: Тады спытаю па-іншаму. За колькі гадоў можна назбіраць на аднапакаёўку ў Мінску за $60 тысяч?**

**Вольга:** Як мінімум 3 гады трэба працаваць. Пры ўмове, што ўвесь гэты час заробак і камандзіровачныя будуць адкладаца. Кажу пра сярэдніх спецыялістаў.

**«НН»: Вам плацяць далярамі ці баліварамі?**

**Вольга:** Не, мы супрацоўнікі беларускай кампаніі, таму і заробак у нас у беларускіх рублях.

**«НН»: Што можаце дазволіць сабе там на свой заробак?**

**Вольга:** Інфляцыя ад пачатку года наблізілася да 50%, а заробак застаўся ранейшым, таму вымушаны сёлета крыху паясы зацягнуць. Але ўсё залежыць ад чалавека. Нехта снедае ў рэстаранах, а нехта варыць баршчы, затое пашырае свае квадратныя метры.

**«НН»: Расказваюць, што за даляр можна купіць ледзь не сто літраў бензіну. Усе на машынах ездзяць?**

**Вольга:** Гледзячы за які даляр. Калі па афіцыйным курсе, то за адзін даляр можна заправіць бак на 60 літраў. А вось за даляр, абменены ў валютчыкаў, можна набыць больш за 500 літраў. Паліва таннае, а вось аўто далёка не кожнаму па кішэні, і яно вельмі дарагое ў абслугоўванні. Таму шмат хто ездзіць на старэнькіх развалюхах, у якіх, на выгляд, тармазіць даводзіцца нагамі.

**«НН»: А паліцыя не затрымлівае пры абмене ў валютчыкаў?**

**Вольга:** Тэарэтычна затрымаць могуць. Але ж не ўсё так жорстка. Я ніколі не чула, каб некага «павязалі». Многія цэны прывязаныя да неафіцыйнага курсу, пра гэта нават пішуць у газетах.

Афіцыйны курс — 6,3 балівара за даляр, у валютчыкаў — 53 балівары.

### «Большасць чакае пераменаў»

**«НН»: Ці адбыліся ў краіне змены пасля прыходу да ўлады Нікаласа Мадуры? Да беларусаў стаўленне змянілася?**

**Вольга:** Каардынальных зменаў не адбылося. Мадура ўсё-ткі стаўленік і паслядоўнік Уга Чавеса. Але ж эканамічная сітуацыя пагоршылася, як наступства — пагоршала крымінагенная абстаноўка, усё больш і больш людзей задумваецца пра змену месца жыхарства. На ўзроўні бытавых, вулічных зносін нічога не памянялася. Можа, не так шырока расчыненыя палітычныя вароты, як у часы Чавеса, але гэта ўжо іншая бок медаля.

**«НН»: Смерць і пахаванне Чавеса ператварылася ў народную істэрыю. Яго сапраўды так моцна любілі?**

**Вольга:** Сапраўды. І цяпер ёсць з кім параўноўваць. Чавес — гісторыя. Ён мог весці за сабой не проста краіну, а вялікую дзяржаву.

**«НН»: Вы кантактуеце з венесуэльцамі па-за працай? Венесуэла пасля прэзідэнцкіх выбараў застаецца сапраўды падзеленай палітычна?**

**Вольга:** Рэдка кантактую. Хоць падзеі ў краіне абмяркоўваюць вельмі актыўна, толькі дай нагоду пагаварыць. Падзел быў да выбараў. Цяпер, мабыць, у Венесуэле большасць тых, хто жадае пераменаў, прагне крокаў наперад.

**Сяргей Макарэвіч**

---

**Беларусь — Венесуэла**

Актыўнае супрацоўніцтва пачалося ў 2006. Тады Беларусь наведаў Чавес. Затым быў візіт Лукашэнкі ў адказ. Яшчэ некалькі разоў кіраўнікі дзяржаў наведвалі адзін аднаго. Нашыя краіны збліжаліся на глебе сапсаваных адносінаў з ЗША.

Будаваць у Венесуэле беларускія спецыялісты пачалі ў 2010. Згодна з афіцыйнымі звесткамі, ужо пабудавана каля 4 тысяч кватэр.

«Па нашых звестках, прыкладна 700 грамадзян Беларусі працуе ў Венесуэле. Гэтая лічба змяняецца, — адзначыў пасол Беларусі ў Венесуэле Алег Пафёраў у нядаўнім інтэрв'ю газеце «VEA». — Сёння мы будуем амаль 17,5 тысяч кватэр у штатах Арагуа, Міранда і Барынас. Апроч таго, варта згадаць заводы, якія размяшчаюцца ў індустрыяльным комплексе «Бітва Санты Інес» у штаце Барынас: па зборцы трактароў — СП «ВенеМінск Трактары», грузавікоў — СП «МАЗ ВЕН». Адбыўся запуск і аднаго з найбольшых заводаў у Лацінскай Амерыцы па вытворчасці цэглы».

Тавараабарот паміж краінамі летась склаў $580 мільёнаў.

# Абвінавачвае байкераў

Жыхар Гомеля патрабуе з матаклуба «Начныя ваўкі» 750 мільёнаў кампенсацыі.

У Гомелі працягваецца слуханне крымінальнай справы ў дачыненні да трох сяброў матаклуба «Начныя ваўкі», у тым ліку і лідара Паўла Каніна, вядомага ў горадзе і вобласці чалавека. Слуханні ў судзе Чыгуначнага раёна Гомеля распачаліся яшчэ ў жніўні.

Справа была заведзена ў студзені 2013 года па арт. 147 Крымінальнага кодэкса — нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Пасля вечарыны на базе клуба «Начныя ваўкі» жыхар Гомеля атрымаў пашкоджанне вока і страціў зрок. Пацярпелы сцвярджае, што яго збілі гаспадары клуба — байкеры. Тыя, у сваю чаргу, заяўляюць, што ніхто наведвальніка не біў, той сам напіўся, скандаліў, падаў і недзе такім чынам пашкодзіў вока.

Па сведчаннях пацярпелага, які працуе ахоўнікам на прадпрыемстве «Гомельтранснафта «Дружба», ён прыйшоў на вечарыну ў закрыты клуб байкераў са сваёй жонкай і яе сяброўкай. Трохі выпілі. Захацелася сфатаграфавацца для гісторыі ў дзівосных інтэр'ерах клуба. Сапраўды, там шмат розных мудрагелістых фігурак з жалеза, але фатаграфаваць іх, па правілах клуба, нельга. Прычым для выканання здымкаў пацярпелы залез на лаўку са здымачом. Гаспадарам клуба гэта не спадабалася, і яго папярэдзілі пра недапушчальнасць такіх паводзінаў. Па словах пацярпелага, байкеры яго збілі, і ён трапіў у лякарню, дзе ў яго дыягнаставалі разрыў сятчаткі вока.

Хто менавіта яго біў — малады чалавек не памятае. Як і не памятаюць сведкі з яго боку (жонка і яе сяброўка), якія, аднак, сцвярджаюць, што бачылі, як іх спадарожніка білі тры чалавекі.

Страчаны зрок пацярпелы ацаніў на 750 мільёнаў рублёў — такі памер кампенсацыі заявіў ён у судзе.

Тым часам абвінавачваныя, усе трое, даюць зусім іншыя паказанні. Па іх словах, ніхто наведвальніка клуба не біў, наадварот — яго ўвесь час спрабавалі супакоіць. «Ён скандаліў, сварыўся са сваёй жонкай, лаяўся, быў у крайняй ступені ап'янення, не мог устаяць на нагах. Яго ўжо нават да стойкі бара прыхінулі, а ён усё падаў на асфальтавую падлогу. У нас у клубе шмат жалезных фігурак з вострымі элементамі. Можа, на іх ён і ўпаў. Яго ледзьве звялі па прыступках на вуліцу, дзе і пакінулі разам з жонкай. Ён і на вуліцы падаў, на абледзянелай дарозе», — давалі сведчанні ў судзе абвінавачваныя. Па іх словах, пацярпелы лез у бойку, махаў рукамі.

Матаклуб «Начныя ваўкі» існуе ўжо 12 гадоў. За гэты час у яго сяброў не было праблем з законам. Наадварот — матаклуб з'яўляецца актыўным удзельнікам гарадскіх і абласных акцый. На рахунку байкераў — удзел у дабрачынных акцыях, праца з падлеткамі, дапамога дзіцячаму дому, правядзенне спаборніцтваў па матаспорце. «Начныя ваўкі» і асабіста Павел Канін маюць шмат падзяк ад мясцовых уладаў і ДАІ. У падтрымку байкераў выступілі арганізацыі, з якімі «Начныя ваўкі» праводзілі сумесныя акцыі: дзіцячыя прытулкі, цэнтры тэхнічнай творчасці, валанцёры.

На ўсе судовыя пасяджэнні падтрымаць «Начных ваўкоў» ходзяць іх сябры і знаёмыя, сваякі, прыязджалі нават байкеры з Мінска і Санкт-Пецярбурга.

Разгляд крымінальнай справы ў судзе працягваецца. Байкерам пагражае па арт. 147 Крымінальнага кодэкса да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**Юлія Шымкевіч, Гомель**



Рамантыка байкерства вабіць маладых, але толькі ў Гомелі суполка «Начныя ваўкі» перарасла ў клуб.

## Адбіліся ад міліцыянтаў і ўгналі іх машыну

Пакуль міліцыя ганялася за п'янымі ў Кармянскім раёне, тыя скралі ў праваахоўнікаў службовае аўто, рацыі і мабільныя тэлефоны.

Пад крымінальны пераслед пасля п'яных уцёкаў ад міліцыі трапілі двое жыхароў Кармы і адзін — Гомеля. Зусім маладыя — ім 22, 23 і 25 гадоў.

Ім удалося не толькі ўцячы ад супрацоўнікаў міліцыі, але і скрасці ў іх службовае аўто, рацыі, мабільныя тэлефоны і грошы.

Супрацоўнікі ДАІ Кармянскага РАУС патрулявалі дарогі ў раёне. У адной з вёсак іх увагу прыцягнуў аўтамабіль «ВАЗ». На патрабаванне спыніцца кіроўца не адрэагаваў і працягнуў рух. Міліцыянты пачалі пераслед. На вясковай вуліцы п'яная кампанія выскачыла з аўто і кінулася наўцёкі. Аднаго з іх усё-такі дагнаў міліцыянт і скруціў. Але сябра дапамог свайму хаўрусніку ў бядзе, удвух яны неяк адбіліся ад сяржанта, кінуліся да службовага міліцэйскага аўтамабіля, завялі яго і памчаліся.

На службовым аўто маладыя людзі перакуліліся, але засталіся жывыя. І скралі на развітанне маёмасць міліцыянераў: рацыі: мабільны тэлефон і ліхтарык.

Адзін з міліцыянтаў усё-такі здолеў дагнаць трэцяга ўдзельніка п'янай пагоні, два ж сябры былі абвешчаны ў пошук і былі затрыманы пазней.

Цяпер яны змешчаны ў СІЗА, маладым людзям чакае суд за шэраг злачынстваў — крадзеж, угон аўтамабіля, нападзенне на супрацоўніка міліцыі.

**ЮШ**

## З вакна прэстыжнай мінскай школы выпала 17-гадовая гімназістка

Следчы камітэт праводзіць праверку па факце смерці навучэнкі гімназіі 1996 года нараджэння. «Па папярэдніх дадзеных, смерць наступіла ў выніку падзення з вышыні», — паведаміла прадстаўнік СК Юлія Ганчарова. Прызначаны шэраг экспертыз. Па інфармацыі «Нашай Нівы», дзяўчынка выпала з акна 4 лістапада каля 19-й гадзіны. Здарэнне адбылося ў прэстыжнай сталічнай гімназіі №24, што месціцца на вуліцы Інтэрнацыянальнай. Яна спецыялізуецца на вывучэнні замежных моваў.

У навучальнай установе не каментуюць здарэнне.

**Кастусь Матушыч**

### Вышук

**Хаваецца ў Брытаніі?**

Фрунзенскае РУУС вышуквае **Гошу (Варабей) Вераніку Фёдараўну**, 1969 года нар. 6 лютага 2001, з'яўляючыся службовай асобай — доктарам-тэрапеўтам паліклінікі ў Мінску, — прыняла грашовыя сродкі, выдзеленыя ёй у сувязі з займаным службовым становішчам. Па наяўнай інфармацыі, цяпер яна хаваецца на тэрыторыі Брытаніі.



**Мо хто бачыў чалавека з пратэзам?**

УУС Цэнтральнага раёна Мінска вышуквае **Селяха Юрыя Паўлавіча**, які прапаў без вестак. Ён нарадзіўся ў 1961 г. у Мінску і пражываў на пр.Пераможцаў, 97/1-102. Яшчэ ў 2005 годзе ён выйшаў з дому і дагэтуль не вядома, дзе ён.

На выгляд яму 43-45 гадоў, высокі, крэпкі. Асаблівая прыкмета: на левай назе пратэз да сярэдзіны галёнкі, на левым перадплеччы — шнар.

Хто што ведае пра такога чалавека, паведамце па тэл. 288-79-02 або 102.

### Сцісла

**Севярынец і Рымашэўскі трапілі ў аварыю**

«Усе засталіся жывыя — і гэта галоўнае», — сказаў Севярынец. Прычынай здарэння стала слізкая дарога ў нядзелю. У часе аварыі за стырном быў экс-кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі. ДТЗ адбылося на трасе Гродна-Мінск, пад Іўем.

**Стары паскуднік**

Следчы камітэт распачаў крымінальную справу на пенсіянера з Кобрына. Яго падазраюць у дзеяннях сэксуальнага характару да маналетніх.

Паводле папярэдніх звестак следства, 66-гадовы пенсіянер запрашаў дзяўчатак да сябе дахаты, а там вычвараўся. Вядомы прынамсі два такія факты, але не выключана, што іх можа быць значна больш.

**Міліцыянера з Крычава асудзілі на 6 гадоў за збіццё затрыманага**

Бабруйскі міжгарнізонны вайсковы суд прызнаў вінаватым малодшага апераўпаўнаважанага аддзялення крымінальнага вышуку Крычаўскага РАУС Сініцына ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў і нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў. «Але ён вінаватым сябе не прызнаў», — адзначыў старшыня ваеннага суда.

Першапачаткова справай займаўся КДБ.

**Лез у інтэрнат па рыштаваннях і разбіўся**

11 лістапада а 00.15 каля інтэрната Гомельскага ўніверсітэта на вуліцы Савецкай знайшлі труп з характэрнымі прыкметамі падзення з вышыні. Небаракам аказаўся 21-гадовы студэнт 4-га курса родам з Буда-Кашалёва.

Ён спрабаваў падняцца ў пакой на чацвёрты паверх па будаўнічых рыштаваннях, змантаваных каля фасада будынка.

**Мінчанка 23 разы «здала» арандаваную кватэру**

20-гадовая жыхарка сталіцы падманула дзясяткі людзей на 13 тысяч даляраў. Апраўдваецца, што зрабіла тое... ад кахання. Яе сужыцель выйшаў з турмы і панадзіўся гуляць у казіно, а грошы дзе ўзяць?

Цяпер дзяўчына арыштаваная, а мужчына хаваецца ад следства.

**18-гадовы дарваўся да пісталета**

Брэсцкі міжраённы аддзел Следчага камітэта распачаў справу за хуліганства на 18-гадовага хлопца.

Як паведаміла следчая па асабліва важных справах Аксана Бацкалевіч, маладзён 6 лістапада прыблізна а 16.00 некалькі разоў стрэліў з пнеўматычнага пісталета па вокнах інтэрната.

Прабіў тры шыбы. На шчасце, ніхто не пацярпеў.

Хлопец нідзе не працаваў і не вучыўся.

**СГ; інф. БелаПАН, Ej.by**

# 32-гадовы каталіцкі святар загінуў у ДТЗ пад Івянцом

Аварыя адбылася ўвечары 4 лістапада **на трыццатым кіламетры трасы** Івянец — Сівіца — Белакорац.



«У тым месцы, дзе адбылася аварыя, дарога рэзка закругляецца ўправа. Кіроўца перад гэтым здзяйсняў абгон і, хутчэй за ўсё, перавысіў хуткасць. Ён не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у кювет. Там аўтамабіль «Опель» ударыўся ў дрэва. Ад атрыманых траўмаў кіроўца памёр на месцы. Загінуўшы быў святаром, мяркуецца, што ён ехаў са службы, бо быў апрануты ў рызу», —расказаў інспектар дзяжурна-патрульнай службы Валожынскай дзяржаўтаінспекцыі Андрэй Бобрык.

Андрэй Ахрэм нарадзіўся ў Вілейцы, там цяпер жывуць ягоныя бацькі. З 2005 па 2012 праходзіў фармацыю і навуку пры ордэне айцоў францішканаў у Лодзі (Польшча). Сёлета Андрэя Ахрэма высвецілі ў ксяндзы. Сваю першую службу ён адправіў у вілейскім касцёле Узвышэння Святога Крыжа.

«Андрэй быў пасвечаны ў святары паўгода таму. Ён служыў у касцёле Св. Міхала Арханёла ў Івянцы. Учора Андрэй вяртаўся з вёскі Камень, дзе замяняў святара суседняй парафіі», — расказаў прэс-сакратар Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Юрый Санько.

Пахаванне ксяндза Андрэя Ахрэма адбылося 8 лістапада ў касцёле Св. Міхала Арханёла ў Івянцы.

**Кірыла Хілько, Сяргей Макарэвіч**



**Фотафакт**

**Сын Ярмошынай сфатаграфаваўся на фоне Эйфелевай вежы**

Адвакат Аляксей Ярмошын выставіў гэтае фота ў якасці профільнага ў Фэйсбуку.

Здымак выглядае двухсэнсоўна: маці Ярмошына, Лідзія, узначальвае Цэнтрвыбаркам. Як арганізатарцы «выбарчага працэсу», ёй забаронены ўезд у Еўрасаюз. І яна прызнавалася, што гэта стварае ёй нязручнасці, бо яна марыць пабываць у Парыжы.

Адным словам, «Вітаю, мама!».

**СГ**

## Самалёт «Мінск — Вільня» пачне лётаць ад 19 снежня

Рэйс будзе выконвацца за **40 хвілін.**

Палёты ў Вільню будуць ажыццяўляцца пераважна на самалётах CRJ-100/200 восем разоў на тыдзень. Час у шляху — 40 хвілін.

У панядзелак, чацвер, суботу і нядзелю будуць ажыццяўляцца ранішнія рэйсы, па панядзелках і пятніцах — а 19.15, у суботу і нядзелю — а 17.10.

Самалёты будуць кіравацца ў Віленскі аэрапорт. Цана пералёту ў эканамічным класе абслугоўвання складае ад 62 еўра ў абодва бакі (аэрапортавыя таксы і зборы ўключаны).

Зазначым таксама, што цяпер цана квітка на цягнік да Вільні каштуе ад 141 да 279 тыс. рублёў ранішнім цягніком у адзін бок (гэта ад 11 да 22 еўра) і 161 700 рублёў вечаровым цягніком (каля 13 еўра).

**АГ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Пытанне на белай тканіне

На пачатку кастрычніка лёс падараваў мне аўтавандроўку ў Люблін. Дакладней, падараваў сам Люблін — гэты нечаканы ад першага разу цуд...

Зазнаў я ў тым падарожжы і яшчэ адзін, так бы мовіць, тэхнічны цуд — навігатар.

Для кагосьці, магчыма, і не цуд. Хтосьці, магчыма, да апошняй рысачкі і кропачкі разумее, як гэты цуд адбываецца, і дакладна ведае, што за істота кіруе з касмічных вышынь тваім зямным рухам.

Па мне, дык лепш не ведаць і не разумець. Бо, калі чалавек усё зведае і зразумее, на тым і скончыцца ягоны рух на Зямлі.

...Якраз на той дзень, калі, угледаючыся ў прыкметы малазнаёмага жыцця, я павольна шпацыраваў па Кракаўскім прадмесці да Брамы Градскай, усталявалася бабіна лета. Пасля халоднага імглістага тыдня сонейка зноў лашчылася да горада, ягоных старадаўніх вежаў, дахоўкі, жыхароў і бестурботных турыстаў, нібыта супакойвала: «Не хвалюйцеся, нікуды я не падзелася, усё яшчэ тут!»

Шпацыраваў...

І раптам нешта вымусіла спыніцца.

Трэба сказаць, што спыняцца ў Любліне можна ці не на кожным кроку. Ну як, напрыклад, не спыніцца ля помніка Люблінскай уніі? Ці ля рэштак згарэлага яшчэ ў XVI стагоддзі касцёла, адкуль адкрываецца чароўны, насычаны шматвяковай гісторыяй далягляд. Далягляд, які ўбірае ў сябе Прастору і Час, мірыць іх паміж сабой, з чаго і ствараецца непаўторны люблінскі цуд...

Дык вось, я спыніўся. Але адчуў, што спыніўся не па ўласнай волі, не сам.

Магло падацца, што спыніла мяне пытанне на белай тканіне, прымацаванай да агароджы невялікага балкона на рагу двухпавярховага будынка. Унізе месцілася аптэка. І па першым уражанні можна было меркаваць, што аптэка і пытанне на белай тканіне нейкім чынам суадносяцца між сабой. Такі вось

**Падобнае здараецца з кожным, хто натыкаецца на амаль містычную нечаканасць**



незвычайны піяр аптэчнага бізнэсу. Але тканіна вісела на агароджы балкона так, быццам нехта вывесіў яе на сонейка пасля пральні. Якая ж гэта рэклама, які піяр?

Колькі хвілін я вагаўся паміж сэнсам пытання і звыклай журналісцкай цікаўнасцю да таго, адкуль яно ўзнікла пасярод няспешнага пешаходнага руху, хто і чаму звяртаецца з ім да людзей ці мо да самога сябе. Але нешта працягвала стрымліваць, не дазваляла нават зварухнуцца...

Падобнае, мусіць, здараецца з кожным, хто натыкаецца на нейкую раптоўную, амаль містычную, нечаканасць.

Са мной здарылася ў 1968 годзе, таксама бабіным летам, калі зусім нечакана я натрапіў на магілу Імануіла Канта. Не тое, каб не ведаў, дзе ён жыў і памёр. Але шукаць ягоную магілу на той момант не было маёй мэтай. Да таго ж я страшэнна стаміўся ад шматгадзіннага бадзяння па Калінінградзе, дзе апынуўся ўпершыню. І цягнуцца яшчэ да паўразваленага сабора пасярод агромністай, у крушнях пустэчы не вельмі выпадала. Але вось нешта вымусіла. І я пацягнуўся.

Зрэшты, я ведаю што: вялізныя валуны з падмурка Каралеўскага замка і танкі, што, пыхаючы смярдзючым дымам, спачатку расцягвалі іх, а потым цягнулі да кучы.

Той замак ва ўсёй ягонай сярэднявечнай велічнасці і змрочнай прыгажосці я бачыў у кватэры добрых знаёмых на карціне, што засталася ад колішніх нямецкіх гаспадароў. «Схадзі, пагляндзі, — параіла гаспадыня, — бо хутка нават ад ягоных развалінаў нічога не застанецца...»

Так я стаўся сведкам гістарычнага, дакладней, антыгістарычнага моманту, бо знос Каралеўскага замка, які, дарэчы, вайна амаль ашчадзіла, меўся канчаткова знішчыць у Калінінградзе Кёнігсберг. А ў якасці сімвала пабудаваць на месцы замка Дом Саветаў. То бок пакінуць нашчадкам, як тое і адбылося, выродлівы напамін...

Але гэта пазней. А тады я спалохаўся, што і сабора больш не пабачу...

Магіла Канта месцілася ў адзіноце ля ацалелай сцяны.

Я сунуў руку ў кішэню і дастаў кавалачак бурштыну, шчасліва знойдзенага напярэдадні на сыходзе балтыйскай хвалі па пясочку Куршскай касы. Сапраўды пашанцавала — у кавалачак заляцеў і навечна застаўся там маленькі камарык. Ці не той, падумаў я, каторага Кант прасіў загаварыць? «О маленькі камарык! Калі б ты загаварыў, нашы веды былі б зусім іншыя...»

Не загаварыў.

...Сабор уратаваў Кант. Нешта ўсё ж спыніла бальшавікоў ля ягонай магілы.

Мо палахлівае разуменне таго, што яе немагчыма адарваць ад сабора, ад бязмежных вышынь, да якіх імкнецца ён, спалучаючы «маральны закон унутры нас і зорнае неба над галавой»...

А мо і пытанне на белай тканіне, што кінулася ў вочы пасярод Любліна.

Зрэшты, звычайнае: «A co, jeśli BÓG jest?»

*kamerton_41@mail.ru*

# Незаменны сілавік Леанід Мальцаў

Працяг са старонкі 2.

## 50 гадоў у вайсковых ботах

У Партызанаўцы мы і знаёмімся з Васілём, стрыечным братам колішняга міністра абароны. «Мы ж з Леанід Сямёнавічам у адной хаце выраслі! — пачынае расповед ён. — У маёй сям'і сямёра чалавек, і іх тады было чацвёра».

«Я ўсё смяюся з яго: як у 14 гадоў у вайсковыя боты абуўся, дык дагэтуль у іх і ходзіш, — усміхаецца Васіль і пралічвае: — Гэта ж ужо 50 гадоў прайшло, як ён паступіў на службу».

У мінскую Сувораўскую вучэльню Леанід з'язджаў ужо з іншай вёскі, з Чамяроў. Цяпер гэта прыгарад Слоніма. Туды бацькі пераехалі, калі Леанід быў зусім малым.

Хата, у якой вырас будучы міністр абароны, стаіць дагэтуль. Цяпер яна пустая: брыгадзір Сямён Данілавіч памёр два гады таму. Ягоная жонка, палявода Ганна, — значна раней.

## Вайсковец-выдатнік

У Чамяры Леанід так і не вярнуўся. Пасля Мінска яго чакала Кіеўская вышэйшая вайсковая агульнавайсковая камандная вучэльня, якую беларус скончыў з залатым медалём, служба ў Германіі і на Далёкім Усходзе з перапынкам на вучобу ў маскоўскай Ваеннай акадэміі імя Фрунзе. Яе Мальцаў таксама скончыў на выдатна, як пасля і Вайсковую акадэмію расійскага Генеральнага штаба.

Чаму пайшоў у вайскоўцы? Трэба было дапамагаць гадаваць меншых братоў і сясцёр, тлумачаць сваякі.

Зрэшты, вайсковая будучыня чакала і братоў, і пляменнікаў Леаніда Мальцава.

Брат міністра Мікола, напрыклад, даслужыўся да звання падпалкоўніка. Ён прайшоў Афганістан, атрымаў два раненні. Цяпер на пенсіі. Пабудаваў катэдж побач з бацькоўскай хатай.

Другі брат, Уладзімір, быў чыноўнікам на Барысаўшчыне. Сёлета ён памёр, расказваюць сваякі.

«У нашай сям'і ўсе ваенныя, адзін я, як гаворыцца, калгаснік», — смяецца Васіль. Ён працуе трактарыстам у калгасе, выгадаваў дваіх дзяцей, а цяпер разам з жонкай сталі прыёмнымі бацькамі — у дагледжанай хаце бегае чацвёра малых.



«Як у 14 гадоў у вайсковыя боты абуўся, дык дагэтуль у іх і ходзіць»

Леанід Мальцаў — доўгажыхар беларускай палітычнай сцэны. Агенцтва БелТА па «добрай» традыцыі не прадала «НН» арыгінал фотаздымка.

**Леанід Мальцаў**

Нарадзіўся ў 1949 у вёсцы Вяценеўка Слонімскага раёна. Скончыў Мінскую сувораўскую вучэльню (1967), Кіеўскае вышэйшую агульнавайсковую камандную вучэльню (1971), Вайсковую акадэмію імя Фрунзе (1979), Ваенную акадэмію Генеральнага штаба (1992).

Служыў у групе савецкіх войскаў у Германіі, у Далёкаўсходняй вайсковай акрузе. З 1992 — першы намеснік камандзіра 28-й арміяй. У 1994 — начальнік Галоўнага штаба Узброеных Сіл Беларусі. У 1995-1996 — міністр абароны Беларусі. У 1997-2000 — першы намеснік начальніка Штаба па каардынацыі вайсковага супрацоўніцтва СНД. У 2000-2001 — намеснік сакратара Рады бяспекі. У 2001-2009 — міністр абароны, у 2009-2013 — сакратар Рады бяспекі, цяпер старшыня Памежнага камітэта. У 2012 — в.а. старшыні КДБ.

## Працоўныя поспехі

«Ён жа ведае 15 замежных моваў! Прайшоў і Амерыку, і Афганістан, і Кітай», — хваліцца стрыечным братам Васіль. Гучыць сумнеўна, аднак для беларускіх чыноўнікаў і вайскоўцаў нават адна замежная — дасягненне.

А Мальцаў не абмінуў яшчэ і навуковую кар'еру. У канцы 1990-х ён стаў кандыдатам сацыялагічных навук з даследаваннем «Дзейнасць органаў вайсковага кіравання па падтрымцы і ўмацаванні вайсковай дысцыпліны». А ў сярэдзіне 2000-х напісаў доктарскую работу па паліталогіі «Стратэгія вайсковага будаўніцтва ў Беларусі ў сучасных умовах». Дарэчы, абодва разы генерал-палкоўнік абараняўся ў Маскве.

Вянчае спіс ягоных заслуг гордае званне адзінага ў Беларусі кавалера ордэна Вайсковай Славы.

## Наркотыкі ў келіху?

Аднак далёка не заўсёды кар'ера вайскоўца развівалася бясхмарна. Нядаўняя адстаўка мінскага губернатара Барыса Батуры ў жывым эфіры — дробязі ў параўнанні з тым, як з пасады міністра абароны выганялі Мальцава.

Аляксандру Лукашэнку падалося, што Мальцаў выступае перад студэнтамі-медыкамі нецвярозы. Кіраўнік дзяржавы абазваў міністра п'яным і звольніў яго. Што ж адбылося насамрэч?

«Яму нехта падсыпаў наркату ў шампанскае, — перакананы стрыечны брат. — І Лукашэнка зняў яго... Добра, што пасля разабраліся і ўгаварылі Леаніда Сямёнавіча вярнуцца». — «Можа, высветлілася, хто падсыпаў?» — «Ды не, засакрэцілі гэтую справу».

## Закладнік становішча ў краіне

Былы дэпутат, вайсковец Валер Фралоў служыў разам з Мальцавым яшчэ на Далёкім Усходзе.

«Маё меркаванне пра яго тагачаснага — гэта вельмі адукаваны, разумны чалавек, які здольны прымаць важныя, стратэгічныя рашэнні. Што адбылося з ім пазней? Напэўна, змяніліся многія падыходы... Многія дасведчаныя кіраўнікі — не толькі Мальцаў — сталі паводзіць сябе нечакана. Прыязджае Лукашэнка, яны пагаджаюцца: тут я не дагледзеў, тут я не разабраўся... Пасля ў іх пытаешся: як так? Яны сумна адказваюць: ну, вось не змог адказаць, не выйшла... — узгадвае генерал Фралоў. — Хоць разумелі, што ў інтарэсах справы павінны адстаяць сваё меркаванне. А яны гатовыя пагаджацца з чым заўгодна. Гэта і іх бяда, і Лукашэнкі».

«Праз такое «пераражэнне» вертыкалі ўлады змяніўся і Леанід Мальцаў, які калісьці быў мэтанакіраваным падрыхтаваным вайскоўцам, — мяркуе Фралоў. — Хоць як міністр абароны ён глядзеў наперад і спрабаваў прыўнесці многія новыя рэчы».



Мастак Мікалай Апіёк увекавечыў Мальцава.

Часам Мальцаў бывае вельмі жорсткім, заўважаюць людзі, якія сутыкаліся з міністрам.

## Не войска, а камерцыя

Сям'я ў Мальцавых невялікая — двое сыноў. Жонка Ніна атрымала медыцынскую адукацыю, а пасля ездзіла за мужам па ўсім свеце.

Аляксей і Дзмітрый не пайшлі шляхам бацькі. «Выбралі камерцыю», — кажа іх дзядзька.

Да выбараў 2006 Мальцавы дабудавалі двухпавярховы катэдж у Праздах побач з паплечнікам Лукашэнкі Уладзімірам Канаплёвым.

За пару гадоў да таго сям'і ўдалося прыватызаваць трохпакаёўку ў «міністэрскім» доме ў наменклатурным раёне на вуліцы Азгура. Дарэчы, суседнюю кватэру ў гэтым доме займеў Віктар Шэйман.



Бацькоўская хата ў Чамярах стаіць пустая.



Цагляны двухпавярховік Мальцава з агульнай плошчай 680 м².

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч, Вяценеўка—Мінск**

# Як саскочыць з расійскай іглы?

Рэпартаж з Малдовы, якая сціснуўшы зубы **рухаецца ў бок** Еўрасаюза.

«Вы ж, калі будзеце вяртацца ў Малдову, ні ў якім разе не купляйце білет!» — бяжыць следам за мной правадніца цягніка Кішынёў—Бухарэст. «У сэнсе?» — не разумею я. «Ідзіце адразу да мяне, я вас за паўцаны правязу. І чэк любы выдам!» — тлумачыць яна. Навар правадніцы з кожнага «левага» білета складае $20. Некалькі дадатковых пасажыраў — і добрая прыбаўка да зарплаты гарантаваная.

Сярэдні заробак у Малдове складае $260 на рукі. Гэта найменшая лічба ў Еўропе. Людзі выкручваюць як могуць і не заўсёды звяртаюць увагу, ці законнымі сродкамі карыстаюцца для гэтага.

**Расійская культурная прастора**

У Беларусі і Малдовы шмат агульнага. Гэтае падабенства пачынаецца з белкамунмашаўскіх тралейбусаў у цэнтры Кішынёва, якія ходзяць на самых прэстыжных маршрутах. Дарэчы, мясцовае прадпрыемства па зборцы адкрывалася з дапамогай Еўрасаюза. Гэта адзін з нямногіх новых заводаў, пабудаваных за часы незалежнасці.

## Малдаване замежжа прысылаюць на радзіму штогод па $1,5 мільярда

Дармовы праезд (каля 1500 беларускіх рублёў) і стомленая кандуктарка з адрыўнымі талончыкамі ледзь не ў кожным салоне — такое ўражанне, што з Мінска і не выязджаў.

У вачах еўрапейцаў абедзве краіны асацыіруюцца з глыбокім «саўком», да якога ў пошуках экзотыкі дабіраюцца самыя стойкія турысты. Сёлета за першае паўгоддзе Малдову наведалі ўсяго 5 тысяч афіцыйна зарэгістраваных падарожнікаў...

Малдаване адстаялі адзіную дзяржаўную мову, але савецкае мінулае і сувязі з Расіяй даюць пра сябе ведаць: на рынку грымяць Стас Міхайлаў і Грыгорый Лепс, глянцавыя часопісы ў шапіках завезеныя з Масквы, ды і вулічныя зазывалы спрэс рускамоўныя.

У сферы абслугоўвання не ведаць рускую мову — маветон. Хоць у школах яе і не вывучаюць.

«А чаму ў вас некаторыя цэннікі па-руску, а некаторыя — па-румынску?» — пытаюся ў прадавачкі выпечкі. «А табе якая справа?» — з недаверам перапытвае тая і шчыра прызнаецца. — Проста я румынскай не ведаю».

**Бюджэт трымаюць гастарбайтары**

Эканомікі абедзвюх краін шчыльна прывязаныя да Расіі. Аднак Малдова пачала саскокваць з нафта-газавай іглы значна раней. Вось ужо трэці год краіна атрымлівае расійскі газ па рынкавых цэнах. $370 за кубаметр — цана, якую даводзіцца плаціць за незалежнасць. Для параўнання, Беларусь сёлета купляе газ па $160.

Пры такіх цэнах жыць па сродках становіцца ўсё складаней. Штогод Малдова імпартуе замежных тавараў на $5 мільярдаў, а прадае свайго — на $2 мільярды. Чым кампенсуецца розніца?

Перадусім за кошт паступленняў ад гастарбайтараў. Малдаване, якія працуюць за мяжой, дасылаюць на радзіму па $1,5 мільярда штогод. І гэта толькі афіцыйныя падлікі. Даходы бюджэту тым часам складаюць усяго $2,5 мільярда.

«Мае бацькі з'ехалі ў Іспанію, здымаюць там дом. Тата стаў садоўнікам, мама прыбіральшчыцай. Пры гэтым высылаюць мне па 100—200 еўра штомесяц, адзенне, часам перадаюць нейкую тэхніку... Такую дапамогу ад сваякоў атрымлівае паўкраіны, — расказвае 25-гадовая Мар'яна, прадавачка ў найбуйнейшым гандлёвым цэнтры краіны «МОЛдова» . — Чаму не паехала я? Спадзяюся, для Малдовы яшчэ не ўсё страчана. З'ехаць заўсёды паспею».


Кішынёў у многіх рэйтынгах называюць самай непрыгожай еўрапейскай сталіцай — ні архітэктурнай спадчыны, ні сучасных хмарачосаў.

Сярэдні заробак у Малдове найменшы ў Еўропе — $260 на рукі

ФЁДАР САВІНЦАЎ / ІТАР-ТАС


Пад Кішынёвам знаходзіцца адзін з найбольшых вінных скляпоў у свеце. Цяпер бутэлькі пойдуць на продаж у Еўрасаюз.

ДЭНІС СІНЯКОЎ / REUTERS

**Такія розныя прыватызацыі**

30-гадовы Іон Рудэй з'язджаць з Малдовы таксама не збіраецца. Ён працуе кіраўніком службы кантроля якасці ў кампаніі «ГазНатуралФеноса» — найбуйнейшым прыватным пастаўшчыку электраэнергіі ў Малдове. У пачатку стагоддзя іспанскі холдынг прыватызаваў тры дзяржаўныя прадпрыемствы. Цяпер гэта адна з самых паспяховых кампаній краіны.

Заробак Іона больш чым удвая перавышае сярэдні ў краіне. Ён спадзяецца, што інтэграцыя з Еўрасаюзам прывядзе ў Малдову заходнія інвестыцыі.

«Галоўнае адрозненне ў тым, што еўрапейцы варушацца, не стаяць на месцы. Пакуль я працую, у кампаніі прайшло тры аптымізацыі. Нейкая схема не працуе — яе адразу ж змяняюць на іншую. А на дзяржаўным прадпрыемстве, нашым канкурэнце, усё стаіць нязменна з часоў развалу СССР...». Пры гэтым тарыфы ў прыватніка ніжэйшыя, чым у дзяржавы, адзначае ён.

Зрэшты, бываюць прыклады і менш паспяховай прыватызацыі. Скандал апошніх месяцаў — сітуацыя з Кішынёўскім міжнародным аэрапортам. Урад Малдовы правёў закрыты конкурс і перадаў яго ў кіраванне расійскай кампаніі «Авія-Інвест» на 49 гадоў. Дзяржава ж будзе ўсяго атрымліваць 1% даходаў аэрапорта. Раней аэрапорт зарабляў на падтрыманне інфраструктуры па 5 мільёнаў еўра штогод. Навошта было за закрытымі дзвярыма перадаваць яго малавядомай расійскай кампаніі? Мясцовыя палітычныя сілы абвінавачвалі ў карупцыйнай змове адна адну, аднак адказу на пытанне так і не знайшлі.

**Апошні крок да Еўропы**

У канцы лістапада Малдова рыхтуецца зацвердзіць Пагадненне аб асацыяцыі з Еўрасаюзам. Запланаванае і пагадненне аб свабодным гандлі. «Яны ўступяць у сілу не адразу, найхутчэй налета, аднак у Малдове яго ўспрымаюць як кропку незвароту ў выбары паміж расійскім і еўрапейскім вектарамі развіцця, — расказвае палітолаг Аляксандр Мэлуш. — Камуністы выступаюць катэгарычна супраць падпісання дакументаў, хоць раней таксама прапагандавалі збліжэнне з Еўропай. У краіне вялікая незадаволенасць урадам, аднак веры камуністам таксама няма».

Расія спрабуе ўтрымаць Малдову побач з сабой і не пусціць яе да Еўрасаюза. Спачатку ў ход пайшло эмбарга на малдаўскае віно, уведзенае рукамі змагара за чысціню імпартаванай прадукцыі Генадзя Аніштанкі. У краіны Мытнага саюза Малдова прадае каля 60% выробленага віна. Аднак Беларусь і Казахстан не забаранялі пастаўкі, таму ўдар па галіне эканомікі аказаўся не такім моцным.

У дадатак Еўрасаюз адрэагаваў прыгожым жэстам, адмяніўшы квоты на пастаўкі малдаўскага віна. Маўляў, вязіце на продаж колькі хочаце, абы адпавядала еўрапейскім стандартам якасці.

Наступным прымусам да сяброўства з Расіяй аказалася пагроза дэпартацыі малдаўскіх гастарбайтараў. Мікраўтобусы з імі паказальна разварочвалі на мяжы. Забарона на ўезд у Расію пагражае 200 тысячам малдаван — у такую лічбу ацэньваецца рынак нелегальных работнікаў.

У сітуацыі, падобнай да малдаўскай, аказалася і Арменія. Праз аддаленасць ад Еўрасаюза армянам давялося пагадзіцца з настойлівымі расійскімі «прапановамі» аб сяброўстве. Ці ўдасца пратрымацца Малдове?

**Ягор Марціновіч, Кішынёў-Мінск**

**Малдаўская эканоміка за 2012**

| Імпарт — $5,2 мільярда | Экспарт — $2,2 мільярда |
|---|---|
| Расія — $815 мільёнаў | Расія — $655 мільёнаў |
| Румынія — $620 мільёнаў | Румынія — $355 мільёнаў |
| Украіна — $595 мільёнаў | Італія — $200 мільёнаў |


Стыхійныя рынкі з паношаным адзеннем можна знайсці на многіх кішынёўскіх плошчах.

# «Гледачы не гатовыя»

У Музычным тэатры адбылася прэм'ера мюзікла Уладзіміра Кандрусевіча **«Соф'я Гальшанская»**.

Гэта было спецыфічнае каханне: 17-гадовую (Вольга Жалезская) аддаюць за 70-гадовага Ягайлу (у розных складах — Антон Заянчкоўскі, Віктар Цыркуновіч). 70-гадовы ў тыя гады — гэта як 90-гадовы чалавек сёння.

І тым не менш, Соф'і зайздросцілі. З Гальшан пераязджае ў сталіцу! Яе старэйшая сястра Васіліса (Лідзія Кузьміцкая, Маргарыта Александровіч) інтрыгавала. Таксама хацела стаць чацвёртай жонкай караля і пачынальніцай дынастыі Ягелонаў. Польскія ўладныя колы ў асобе канцлера Уга (Дзяніс Нямцоў) плялі свае змовы таксама.

Вось пра такую гісторыю з'явіўся мюзікл у Музычным.

### Гледачы і / ці салісты

Мюзікл быццам бы нацыянальны, але двухмоўны: усе дыялогі і большасць песень гучаць парыску, асобныя музычныя нумары — па-беларуску. Прычым беларускамоўныя фрагменты выконваюцца пераважна ў «народных» сцэнах. Фактычна адбываецца вяртанне ў савецкія часы, калі беларушчыну дазвалялі ў межах «фальклорнага гета». Вось і ў мюзікле родная мова асацыюецца пераважна з народнай культурай, хоць Ягайла гаварыў на старабеларускай мове нават і на польскім троне — гэта гістарычны факт.

На прэс-канферэнцыі мастацкі кіраўнік тэатра Адам Мурзіч тлумачыў двухмоўе тым, што да беларускай мовы «не гатовыя як гледачы, так і салісты». Вось так — не больш, не менш. У тэатры імя Янкі Купалы ці Оперы гледачы гатовыя, а ў Музычным, відаць, нейкі іншы глядач, імпартны.

У рэальнасці ўсё куды прасцей.

Частка музычных фрагментаў, якія ўвайшлі ў «Соф'ю Гальшанскую», ствараліся Кандрусевічам спачатку не для мюзікла, а для пэўных конкурсаў ці фестываляў. Прычым як на рускамоўныя, так і на беларускамоўныя тэксты. Напрыклад, у свой час Алена Ланская ўзяла Гран-пры на «Славянскім базары» з песняй «Белая ластаўка», якая прагучала ў пачатку першай дзеі.

Але ў мюзікле такое рашэнне не пераконвае, бо парушае цэльнасць.

### Моцны Кандрусевіч

Наогул, новы твор Кандрусевіча пакідае моцнае ўражанне. Кампазітар здолеў натуральна перадаць праз сучасныя музычныя інтанацыі мысленне герояў XV стагоддзя. Асабліва глыбока раскрыта тэма Васілісы. Але большасць беларускамоўных тэкстаў, уключаных у «Соф'ю Гальшанскую», кантрастуюць з агульнай стылістыкай мюзікла. Класічны прыклад — песня «Мужчынскія гульні». Так, гэта стоадсоткавы хіт пра мужчынскую папойку, які выклікае авацыі ў публікі. Але лінія Алеся (Аляксандр Крукоўскі), які выконвае песню, далей ніяк не развіваецца. Сцэна застаецца ўстаўной інтэрмедыяй.

### «Трышчан і Іжота» навыварат

На прэс-канферэнцыі Алена Турава згадала гісторыю Трышчана і Іжоты. Для дзяўчыны зрабілі прываротны напой. Іжота мусіла выпіць з будучым мужам, каралём Маркам, каб закахацца ў яго. Але выпадкова яна пакаштавала напой з Трышчанам...

Турава вырашыла «перакуліць» сітуацыю: што адбылося, калі б гераіня выпіла напой разам з будучым мужам? У нашым выпадку гаворка пра 17-гадовую Соф'ю і 70-гадовага Ягайлу.

Пытанні выклікае містыцызм. Канцлер Уга (Дзяніс Нямцоў), галоўны адмоўны герой, інтэрпрэтуецца як прадстаўнік «цёмных сілаў». А хто тады прадстаўнік «светлых сіл»? Соф'я?

Ні ў сцэнаграфіі, ні ў касцюмах містыцызм не праяўляецца. Нават у асобных эпізодах паводзіны таго ж Уга маюць свае матывы. Напрыклад, канцлер не жадае бачыць на польскім троне ліцвіна.

Паколькі містыцызм не патлумачаны і не абгрунтаваны, некаторыя артысты інстынктыўна ўваходзяць у супярэчнасць з ім.

На здачы спектакля Маргарыта Александровіч, відаць, цалкам выконвала рэжысёрскія задачы. Яе гераіня Васіліса была сцярвознай вядзьмаркай, запраграмаванай на злачынства і здраду. Гэта збядніла мюзікл. Атрымалася, што ў адной з першых сцэнаў гледачам адразу паведамілі, хто з'яўляецца адмоўным героем і ад каго чакаць подласці (кшталту, «Забойца — дварэцкі!»).

А вось Лідзія Кузьміцкая, якая спявала партыю Васілісы на прэм'еры, стварыла ўжо вобраз складаны, неадназначнай асобы, якая на галаву вышэйшая за тагачаснае грамадства, а таму, безумоўна, вартая большага. Партыя стала для Л.Кузьміцкай сапраўднай мастацкай удачай.

Парадокс, але ў спектаклі з яе ўдзелам пытанне пра здраду Соф'і зусім не прынцыповае. Гісторыя пра чыстае і сапраўднае каханне можа мець толькі шчаслівы фінал. А вось лёс Васілісы хвалюе больш.

### Неадназначна

У цэлым уражанні мюзікл пакідае неадназначныя. Да «плюсаў» можна аднесці музыку, сцэнаграфію і часткова касцюмы. Традыцыйная стабільнасць уласцівая працы хора і мастака па святле. Удалым можна лічыць дэбют Вольгі Жалезскай. Годна глядзяцца і іншыя выканаўцы, хоць характары іх герояў не заўсёды распрацаваныя ў лібрэта належным чынам. А вось для вынікаў працы аўтара лібрэта Алены Туравай і рэжысёра Міхаіла Кавальчыка ўласціва эклектыка.

«Соф'я Гальшанская» — нацыянальны гістарычны мюзікл, і гэтым цікавы. Але на аматара.

**Дзяніс Марціновіч**

**Опера па-беларуску**

У Беларускай оперы час ад часу ставіліся творы нацыянальных кампазітараў — Анатоля Багатырова, Юрыя Семяняікі, Генрыха Вагнера — але большасць з іх ажыццяўляліся ў народна-фальклорнай традыцыі. Нацыянальныя творы не выпускалі з «фальклорнага гета».

АНЖАЛІКА ГРЭКОВІЧ

**Ягайла (Віктар Цыркуновіч) і Соф'я Гальшанская (Вольга Жалезская).**

**Сям'я Кавальчыкаў**

Мюзікл у Музычным паставіў рэжысёр **Міхаіл Кавальчык (на фота)**. Наш суайчыннік, ён з 1989 года працаваў у Расіі і параўнальна нядаўна вярнуўся ў Беларусь. Цікава, што ягоны сын Сяргей Кавальчык працуе мастацкім кіраўніком Рускага тэатра. Кавальчык-малодшы ў свой час паставіў у РТБД фолькрок-оперу «Адвечную песню» — адно з найлепшых увасабленняў у тэатры твора Янкі Купалы.

**Каментар**

## «Сівая легенда», «Вітаўт», «Соф'я Гальшанская»: адзін дыягназ

У Оперы — «Сівая легенда», у Балеце — «Вітаўт», у тэатры-студыі кінаакцёра «Хто смяецца апошнім». І вось цяпер у Музычным — «Соф'я Гальшанская». Імпульс быў нададзены міністрам Латушкам. Матэрыял беларускі, але — ні-ні — нідзе няма ніякіх намёкаў на вялікія пытанні сённяшняй Беларусі.

Гэты «дзяржзаказ» ад Латушкі быў адказам на пашырэнне ў грамадстве цікавасці да сваіх нацыянальных каранёў.

Які вынік высілкаў Мінкульта? На жаль, ні адзін з гэтых спектакляў не стане поспехам у гледачоў, якім былі «Тутэйшыя», «Пінская шляхта» ў Тэатры імя Янкі Купалы ці «Народны альбом» у рокераў.

Чаму? Зразумела, у кожнага праўду ёсць свае суб'ектыўныя прычыны. У адным выпадку — абыякавасць пастаноўшчыка, у другім — другаснасць харэаграфіі, у трэцім — слабое лібрэта. Але стаіць за гэтым і адна фундаментальная праблема: інстынктыўная самацэнзура. Аўтары пастановак баяцца нацыянальнай ідэі, баяцца і заглыбіцца ў сацыяльныя матывы ў паводзінах герояў. Дайшло да таго, што з «Сівой легенды» выразалі народнае паўстанне! У выніку ўсё зводзіцца да таннай містыкі ці банальнай меладрамы.

Не вострa, не сучасна, не чапляе.

**Мікола Бугай**

**Сцісла**

**Міхалок сарваў голас**

2 лістапада лідар гурту «Ляпіс Трубяцкой» Сяргей Міхалок сарваў голас падчас выступу ў Зеленаградзе і да гэтага часу не аднавіўся. Паводле рэкамендацыі дактароў гурт быў вымушаны перапыніць на тыдзень тур і перанесці канцэрты ў Туле, Ёшкар-Але і Чэбаксарах. Але вялікі канцэрт «Ляпісаў» у Вільні 30 лістапада, на які прадалі 13 тысяч білетаў, адбудзецца.

**«Беларашык» — наш адказ «Ералашу»**

У Беларусі з'явіцца свой аналаг дзіцячага гумарыстычнага альманаха «Ералаш» — праект «Беларашык» (назва паўстала як «Наша Беларашa» + «Ералаш»). Ідэі для выпускаў прыдумляюць самі дзеці. Праўда, у інтэрнэце людзі крытыкуюць назву перадачы. Бо яно ідзе ад каланіяльнага варыянту назвы нашай краіны паанглійску «Беларашa», Byelorussia, ад Белоруссия, якая навязвалася ў савецкі час.

**Гран-пры атрымала «Іда»**

Завяршыўся XX Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад». Гран-пры за найлепшы фільм атрымала стужка «Іда» (Польшча — Данія). Яе зняў рэжысёр Павел Паўлікоўскі. Прызам «За найлепшую рэжысуру» быў адзначаны фільм «Дакрананне граху» (Кітай — Японія — Францыя). А вось гледачы прагаласавалі за стужку «Па коле» (Сербія — Германія — Славенія — Харватыя — Францыя).

**МК, УЮ**

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

# Парадаксальны Вацлаў Ластоўскі

Дзіўная рэч: хоць Вацлаў Ластоўскі не мой герой, за апошнія два гады мне ўжо другі раз даводзіцца пісаць пра яго. Вось і ў гэтыя дні, калі так ціха, амаль незаўважна прайшло 8 лістапада яго 130-годдзе, я змушаны сёе-тое ўдакладніць у біяграфіі гэтага дзеяча, развеяць пэўныя міфы.

Па-мойму, ужо абвергнуты міф пра тое, што Ластоўскі быў адным з творцаў Акта 25 Сакавіка. Калі Рада БНР засядала з 6 гадзін вечара 24 сакавіка да 6 гадзін раніцы 25-га, а потым сабралася па абедзе 25-га, каб прыняць 3-ю Устаўную Грамату, Ластоўскага ў той зале не было. У зале была дэлегацыя Беларускай Рады ў Вільні, склад якой вядомы дакладна: Іван і Антон Луцкевічы, Ян Станкевіч і Язэп Туркевіч. Пяты сябар дэлегацыі, Дамінік Сямашка, які ў 1919-м стане літоўскім міністрам беларускіх спраў, прыехаўшы ў Менск і ўчуўшы носам, што немцы не дужа прыхільна ставяцца да Рады БНР, да ідэі беларускай дзяржаўнасці, недзе знік. Што ж тычыцца Вацлава Ластоўскага, дык Віленская Беларуская Рада ў Менск яго не дэлегавала.

Каго паслаць у Менск ад Заходняй Беларусі (ужо вымалёўваўся такі тэрмін), Беларуская Рада ў Вільні вырашала 24 лютага 1918 г. — праз шэсць дзён пасля таго, як прыняла рашэнне аб разрыве дзяржаўнай сувязі паміж Беларуссю і Расіяй. Тое рашэнне падпісалі ўсе сябры Рады. Акрамя Ластоўскага.

Тут адразу ж паўстае пытанне: як жа так? Ластоўскі ж быў нацыяналістам. Ластоўскі, творца крыўскай тэорыі, гэтага, як казаў мой настаўнік Рыгор Родчанка, нацыяналізму ў нацыяналізме, і галасаваў супраць разрыву дзяржаўных сувязяў з Расіяй? Чаму? Адказ просты: таму, што быў нацыяналістам-максімалістам; таму, што забягаў наперад.

Беларуская Рада ў Вільні следам за сваім старшынёй Антонам Луцкевічам прытрымлівалася канцэпцыі Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Дзяржавы, кажучы словамі Леанарда Падгорскага-Аколава, ад Беластока да Смаленска (ведама, з Вільняй як сталіцай, з Коўнам і Шаўлямі, Біржамі і Кейданамі). А Ластоўскі быў за самастойнасць Беларусі. Без Літвы! Толькі таму, што ў рэзалюцыі Віленскай Рады гаварылася аб адбудове незалежнасці «колішняга Літоўска-Беларускага гаспадарства (Вялікага Княства Літоўскага)», ён узяў і не падпісаў той дакумент. Атрымаўся ж парадокс: беларускі нацыяналіст выступіў супраць разрыву дзяржаўных сувязяў Беларусі з Расіяй. Мала таго, сябар БСГ Вацлаў Ластоўскі выступіў супраць канцэпцыі, выпрацаванай у верасні 1917 г. яго таварышамі па партыі. Ці маглі гэтыя таварышы, якія дамінавалі ў Віленскай Беларускай Радзе, дэлегаваць такога недысцыплінаванага чалавека ў Менск? Ні ў якім разе!

Не трэба думаць, што Ластоўскі быў адзін такі незалежнік. Ідэя незалежнасці Беларусі сфармулявана тымі самымі братамі Луцкевічамі ды іншымі дзеячамі БСГ яшчэ за тры гады да прыходу Ластоўскага ў партыю, у самым першым праграмным дакуменце, прынятым у 1903 годзе. А потым маладыя беларускія сацыялісты агледзеліся: а дзе кадры для незалежнай дзяржавы, дзе магутны пласт нацыянальнай інтэлігенцыі, дзе пласт сваіх, краёвых адміністратараў? Вось так і нарадзілася ідэя аўтаномнай Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Займеем кадры — можна будзе ставіць пытанне і аб незалежнасці. А тут вайна. І на паверхню выплывае таксама не новая ідэя федэратыўнай беларуска-літоўскай дзяржавы, у якой Беларусь таксама магла б нарошчваць інтэлектуальныя і адміністрацыйныя мускулы. Ластоўскаму ж хацелася самастойнасці Беларусі неадкладна.

**Анатоль Сідарэвіч**

Гісторык, даследчык беларускага нацыянальнага руху ў XX стагоддзі.

## Парадокс: нацыяналіст-максімаліст Ластоўскі галасаваў супраць разрыву дзяржаўных сувязяў з Расіяй

Тым часам да абвяшчэння незалежнасці нашай краіны беларускіх сацыялістаў падштурхоўвала сваёй вялікадзяржаўнай палітыкай сама Расія — спачатку ўрады Георгія Львова і Аляксандра Керанскага, а потым урад Леніна/Троцкага. Штурхала і Нямеччына, якая з бальшавікамі падзяліла Беларусь. Калі 19—21 лютага 1918 г. Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага з'езду яшчэ не гатовы быў абвяшчаць незалежнасць краіны, дык праз месяц Рада БНР ужо амаль саспела для такога кроку. Адно патрабавалася, каб з Вільні ў Менск прыехалі «ўгаворнікі», як назваў Зміцер Жылуновіч сяброў Віленскай Рады, перш за ўсё Івана Луцкевіча.

Вось так, праз сваю паспешлівасць і незгаворлівасць з калегамі Вацлаў Ластоўскі не стаў творцам Акта 25 Сакавіка.

У літаратуры вандруе таксама цверджанне, што «ўгаворнікаў», якія прыехалі з Вільні ў Менск, кааптавалі ў склад Рады БНР. Напрыклад, я пакуль што не бачыў дакументальнага абгрунтавання гэтага цверджання. Пагатоў не быў кааптаваны ў сакавіку 1918-га ў Раду БНР Вацлаў Ластоўскі, як пра тое мы чытаем у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (т. 4, с. 336) ды іншых кнігах. У Раду БНР ён трапіць амаль праз паўтара года — 13 снежня 1919 г.

У той самай энцыклапедыі і ў іншых кнігах замацаваны і трэці міф пра Вацлава Ластоўскага: быццам ён быў сябрам БСГ у 1906—1908 гг. Відаць, гэты міф таксама, як і два папярэднія, пайшоў гуляць ад гісторыкаў-эмігрантаў. Відавочна, той, хто напісаў ці набраў дату «1908», памыліўся. Уявіце сабе: ёсць газета «Наша Ніва», орган падпольнай партыі (гэта байка для легкаверных, што БСГ у 1907 г. самараспусцілася), ёсць рэдакцыя газеты, якая складаецца з сяброў Цэнтральнага Камітэта партыі — братоў Луцкевічаў і Аляксандра Уласава. І вось гэтыя сябры ЦК БСГ запрашаюць у 1909 г. на працу ў рэдакцыі партыйнай газеты чалавека, які нічым асаблівым сябе пакуль што не праявіў. Ды яны нават Янку Купалу, ужо аўтара зборніка «Жалейка», не ўзялі ў 1908 годзе ў штат рэдакцыі. А тут сябры ЦК партыі клічуць на пасаду сакратара рэдакцыі чалавека, які ўзяў ды выйшаў з партыі. Згадзіцеся, што гэта нелагічна.



**Вацлаў Ластоўскі**

(8 лістапада 1883, засценак Калеснікаў (цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці) — 23 студзеня 1938, НКВД). Грамадскі і палітычны дзеяч, пісьменнік, гісторык, літаратуразнавец. Нашанівец, аўтар першай «Кароткай гісторыі Беларусі», «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі», сябра Рады БНР, акадэмік АН БССР.

Праўда ж у тым, што Вацлаў Ластоўскі быў сябрам БСГ да 15 лістапада 1918 г. І маё цверджанне мае дакументальнае абгрунтаванне. Спачатку трэба прачытаць у газеце «Гоман» за 19 лістапада 1918 г. карэспандэнцыю «Агульнае сабранне Беларускае Сацыялістычнае Грамады». Гаворка ў ёй пра сход Віленскай арганізацыі БСГ 15 лістапада. Пытанні абмяркоўваліся гарачыя: аб краёвай уладзе, аб адносінах да левых сацыялістычных партый, аб тым, ці трэба сацыялістам супрацоўнічаць з буржуазіяй і клерыкаламі (так у той час называлі не толькі святароў, але і маладую Хрысціянска-дэмакратычную злучнасць). І вось, на гэтым сходзе, чытаем мы ў «Гомане», асобныя сябры БСГ казалі, што «левыя сацыялістычныя партыі з кожным днём робяцца больш левымі» і што «яны мераць сацыялізм міліметрамі». Калі ж сход Віленскай арганізацыі прыняў рэзалюцыю аб супольнай працы з усімі сацыялістычным партыямі, правымі і левымі, «некаторыя сябры Грамады выйшлі з партыі».

Такая карэспандэнцыя ў «Гомане» за 19 лістапада 1918 г. Хто тыя «некаторыя сябры», стала вядома праз месяц з хвосцікам. 24 снежня А. Луцкевіч мусіў рэдагаваць для нейкай віленскай расійскамоўнай газеты паведамленне, у якім гаворыцца: «З прычыны чутак, якія цыркулююць у горадзе пра тое, што пп. Вацлаў Ластоўскі і Дамінік Сямашка з'яўляюцца сябрамі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, даводзіцца да ўсеагульнага ведама, што пп. Ластоўскі і Сямашка на сходзе мясцовай арганізацыі Грамады 15 гэтага лістапада афіцыйна заявілі аб сваім выхадзе з яе». Чарнавік паведамлення захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф. 325, воп. 1, адз. зах. 7, арк. 19).

В. Ластоўскі паступова адыходзіў ад беларускага сацыялістычнага руху. Гэта і яго канфрантацыя з таварышамі па партыі ў 1917-м і на пачатку 1918 г. Гэта і яго заява ад 26 траўня 1918 г. пра тое, што ён разам з князем Вінцэнтам Святаполк-Мірскім, ксяндзом Уладзіславам Талочкам ды баронам Казімірам Шафнагелем збіраецца стварыць нацыянальна-клерыкальную партыю...

Самае цікавае, што нацыяналіст Ластоўскі, які быў супраць беларуска-літоўскай дзяржавы, у канцы 1918-га стане членам Літоўскай Тарыбы, прызнае права Літвы на Вільню, будзе жыць у Коўне і выпускаць там свае часопіс «Крывіч» і кнігі. Выйшаўшы з БСГ за яе супрацу з левымі сацыялістычнымі партыямі, Ластоўскі дзеля таго, каб стаць прэм'ер-міністрам БНР, у 1919 г. уступіць у левую Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якая заключыць антыпольскі саюз з бальшавікамі. Парадаксальны чалавек быў гэты Ластоўскі.

Уладзімір Лобач.
Апавяданні.

# Дзедавы пчолы і шафёр Фёдар

Дзед Іван — бацька маёй мамы — быў знатным, патомным пчаляром. Бабуля, гаворачы пра яго пчалярскую выбітнасць і выключную якасць мёду, абавязкова пазначала, што купляць дзедаў мёд прыязджалі з усяго наваколля, нават жыды з мястэчка. Калі жыд гатовы адшкадаваць уласныя грошы за нейкі тавар, то гэны тавар — найвышэйшага гатунку. Так, прынамсі, лічаць вяскоўцы. Але гісторыя не пра гэта...

На той час, калі дзед Іван памёр, а ягоную пасеку стала даглядаць бабуля Марыя, мой бацька ўжо напоўніцу загарэўся цікавасцю да пчалярскай справы. І падчас візітаў да сваёй цешчы бацька падоўгу цікаваў у яблыневым садзе, як нястомна працуюць дзедавы пчолы...

Аднаго разу, калі бацька са сваім напарнікам Фёдарам вяртаўся з далёкага рэйса, ён прапанаваў калегу трохху адхіліцца ад курсу і заехаць да цешчы. Маўляў, да Полацка яшчэ гнаць больш за 500 км, то заедзем, адпачнём, падсілкуемся, выспімся. Напарнік, ясная справа, пагадзіўся.

Хата была замкнёная — бабуля на ферме, але бацька ведаў, дзе схаваны ключ. Перад тым, як сесці за стол, Фёдару была прапанавана бацькава цікавостка — паглядзець, як рупліва і старанна працуюць дзедавы пчолы. Злых, агрэсіўных сем'яў не было, і назіраць за працэсам можна было ледзь не ўшчыльную да ляткоў, куды сядалі цяжка гружаныя нектарам пчолкі і адкуль яны ўздымаліся ў свой нябесны шлях. Паглядзелі-падзівіліся, пайшлі ў хату за стол, паабедалі пад чарку-другую бабулінай жытнёўкі і леглі адпачыць з далёкай дарогі...

Бабуля пабудзіла бацьку пытаннем пра чалавека, што, бы мёртвы, ляжыць на беразе рэчкі адразу насупраць хаты. Той пайшоў паглядзець і пазнаў свайго напарніка, які ляжаў тварам долу, абхапіўшы рукамі галаву, і глуха стагнаў. Калі Фёдар нарэшце зрэагаваў на запыты і павярнуўся, то бацька, мусіць, лёганька пералякаўся. Твар чалавека ўяўляў сабой жудасную, бугрыстую, ярка-чырвоную пухліну з ненатуральна раздзьмутым носам, вывернутымі вонкі вуснамі і заплыўшымі вачыма...



**Уладзімір Лобач**

Нарадзіўся ў 1972 у Наваполацку. Скончыў гістфак БДУ. Выкладае ў Полацкім дзяржаўным універсітэце. Кандыдат гістарычных навук. Этнограф, літаратар.

## У адрозненне ад людзей, пчолы арганічна не пераносяць алкаголю

Гісторыя такой страшнай метамарфозы была даволі банальнай. Калі мой бацька заснуў, яго напарнік трохху паварочаўся і, не прычакаўшы сну, вярнуўся за стол. Выпіў яшчэ, потым яшчэ... Фёдар выйшаў на двор папаліць, але назіраць за курыцамі было сумна, і ён вырашыў ізноў паглядзець на пчаліную талаку. Толькі наблізіўся да вулляў, як яго джыганула ў шчаку першая пчала. У адрозненне ад людзей, пчолы арганічна не пераносяць алкаголю і нават ягонага паху, успрымаючы выпарэнні гарэлкі як знак варожы і небяспечны. Яшчэ торгалася ў Федзевай шчацэ джала першай пчолкі, як на абароны сваёй мядовай сядзібы ўзняўся ўвесь рой. За ім другі, трэці... Пчолы джалілі з лёту, проста ў твар, і Федзя, трэба прызнаць, аказаўся шчаслівым, бо ніводная «божая казурка» не патрапіла яму ў вока. У гэтым выпадку платай за лішнюю чарку гарэлкі стала б поўная і невылечная слепата. Фёдар крычаў нема, махаў рукамі і ляпаў далонямі па сваіх шчаках, выціскаючы з пчолаў усё новыя і новыя джыгі. Потым ён пабег да блізкай ракі. І добра, што не ў хату.

Прымочкі, кампрэсы, нейкія мазі — усе бабуліны завіханні — памагалі слаба. Пад вечар у бацькавага напарніка ўзнялася тэмпература і яго вочы заплылі цалкам. Ужо думалі пра раённую бальніцу, але Фёдар катэгарычна адмовіўся і, глынуўшы шклянку жытнёвай анестэзіі, забыўся трывожным сном.

Каб Федзя не быў дужым сібірскім мужыком, каб меў хворае сэрца ці алергію на пчаліны яд, то ў раённую бальніцу павезлі б ягоны труп. А так, мой бацька пазбавіўся напарніка на ўвесь зваротны шлях, але прыдбаў неверагодную весялуху, бо выгляд Фёдара і яго няўрымслівы, але поўны трагікамізму аповед, што паўтараўся раз за разам,ператварылі доўгую дарогу дадому ў адзін суцэльны анекдот.

## Бушмены

Як толькі дзе чую ці чытаю пра бушменаў, разбірае мяне смех. Вось і зараз, як толькі дайшоў у падручніку «Этналогія» да карэннага жыхарства Калахары, не вытрымаў і рассмяяўся. Я не маю нічога супраць бушменаў, але дзякуючы ім і тутэйшаму мальцу Колю я атрымаў у далёкім дзяцінстве шалёны прыступ смеху, які ледзь не скончыўся пасляаперацыйным абвастрэннем.

У шостым класе я трапіў у рэанімацыю з элементарным апендыцытам. Адваляўшыся там у поўнай непрытомнасці больш за суткі, маё пасінелае цела было этапіравана на адмысловым вазку ў бальнічную палату. Мне загадалі не варушыцца і не круціцца надта, бо карункавыя швы патрабавалі спакою дзеля хутчэйшага зарастання свежай дзіркі на жываце. Але суседам па палаце апынуўся малады мужык Коля — неацэнны скарб для збіральнікаў гарадскога фальклору, што зрабіла пастаўленую мне задачу дужа цяжкай. Коля, па ўсім відаць, нарадзіўся 1-га красавіка, і Дзень смеху неяк арганічна перацёк у ягоным жыцці ў круглы год. З раніцы і да вечара Коля хахміў, сыпаў анекдотамі, жартамі, прыколамі і пацешнымі байкамі. Я ж смяяцца не мог проста фізічна. Здавалася, варта толькі рагатнуць, як швы разыдуцца, лопнуць, трэснуць і з мяне вываліцца ўсё тое, што малююць у падручніках па анатоміі.

І ўсё б нічога, але тым жа днём у палату паклалі маладзёна Пецю, які чамусьці дужа цікавіўся ўсімі пытаннямі, звязанымі з мужчынскай сілай і лаўчэйшымі спосабамі яе выкарыстання. Пеця дужа перажываў, бо жонка падарыла яму дачку, а не сына, і шчыра верыў, што дапусціў нейкую прыкрую памылку, калі займаўся пачэснай работай «каваля». Пачуўшы, што Коля мае двух сыноў, Пеця засмуціўся дарэшты і пачаў распытваць праўдзівага майстра пра сакрэты яго ўмельства.

Коля акрыяў і на поўным сур'ёзе пачаў тлумачыць гаротніку тэхнічныя дэталі:

## Як зайшоў і павярнуў налева — будзе дзеўка, а як направа — малец

«Гэта ж проста. Як зайшоў і павярнуў налева — будзе дзеўка, а як направа — малец». Як на сённяшні дзень, то можна было б падзівіцца міфалагічнаму ладу мыслення Колі, які гэтак лёгка сваім посахам разводзіў бінарныя апазіцыі, але тады я курчыўся, душыўся ад приступаў смеху, баючыся выпусціць яго на волю разам са сваімі вантробамі. Аднак канцавой кропкай, дзе маёй вытрымкі ўжо не хапіла, стала абмеркаванне віртуальнай мужчынскай праблемы «змог X разоў на ноч». З аповедаў Колі выходзіла, што толькі нязначную частку сутак ён прысвячае рабоце і харчаванню. Увесь астатні час Коля нястомна малаціў то тут, то там сваім молатам па нечым кавадле, торкаў ключ у знаёмыя і незнаёмыя замочныя шчыліны, бурыў лункі ўсюдыісным бурам, ламаў лёд гарачай пяшнёй...

Пасля разгорнутых красамоўных гісторый сэксуальнага волата стваралася ўражанне, што Коля ў сваім чалавечым абліччы ўсяго толькі фармальны дадатак да нейкай больш значнай і важкай істоты. Але, як высветлілася, і Коля меў залатую мару, недасяжную планку, пра якую з лёгкім сумам і паведаміў усёй палаце. Скончыўшы чарговы аповед пра нейкую экстрэмальную перамогу ў паламаным ліфце, Коля падсумаваў сказанае нечакана сур'ёзна і самакрытычна: «Гэта што. Вось я пра бушменаў чытаў. Дык яны, тыя бушмены, са стаякамі нараджаюцца і... са стаякамі паміраюць».

Зарагатала ўся палата, смяючыся скрозь боль і я. І з тых часоў, калі чую ці чытаю пра бушменаў пустыні Калахары, чамусьці менш за ўсё думаю пра спецыфіку іх этнічнай культуры. Проста смяюся.

## ГАНДБОЛ

### «Дынама» — «Барселона»

14 лістапада на «Мінск-Арэне» адбудзецца гульня групавога этапа Лігі чэмпіёнаў. Сталічнае «Дынама» прыме славутую «Барселону», за якую гуляе беларус Сяргей Рутэнка. Пачатак а 19.

## БАСКЕТБОЛ

### Супраць «Астаны»

**17 лістапада на «Мінск-Арэне»** ў рамках групавога этапа Адзінай лігі ВТБ пройдзе гульня паміж камандамі «Цмокі-Мінск» і «Астана». Пачатак а 16.

## ІМПРЭЗЫ

### Вушацкі словазбор




**15 лістапада а 18-й у кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а)** адбудзецца прэзентацыя новай кнігі Рыгора Барадуліна «Вушацкі словазбор». У вечарыне возьмуць удзел: Генадзь Бураўкін, Наталля Давыдзенка (укладальніца кнігі),Алесь Камоцкі, Уладзімір Някляеў (аўтар прадмовы), Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Кастусь Цвірка (рэцэнзент выдання).

### pARTisan

**15 лістапада а 19-й у галерэі «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** «pARTisan» запрашае на прэзентацыю трох новых выданняў з «Калекцыі пАРТызана» — альбомаў Міхаіла Гуліна і Антаніны Слабодчыкавай («1+1=1»), Аляксея Жданава і Ігара Цішына. У імпрэзе возьмуць удзел: рэдактар серыі Артур Клінаў, мастакі Міхаіл Гулін, Антаніна Слабодчыкава, аўтары тэкстаў да альбомаў Вольга Шпарага, Ірына Герасімовіч, Таццяна Кандраценка.

### Арт-лінія

**Да 12 снежня ў галерэі «Лабірынт»** Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі працуе VI Мінская міжнародная выстава графікі «Арт-лінія». Увазе гледачоў будзе прадстаўлена падборка афортаў розных краін Еўропы (Вялікабрытанія, Германія, Францыя) XVIII-XX стст., а таксама тэматычная кніжная выстава «Колер у чорна-белым», прысвечаная 500-годдзю афорта.

### Incertum

**Да 23 лістапада ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе фотавыстава Сяргея Ждановіча «Incertum». У экспазіцыі будуць прадстаўлены 38 фатаграфічных выяў, складзеных у прасторавую інсталяцыю. Майстар распрацоўвае тэму фатаграфіі як «няпэўнага» мастацтва, разважаючы пра фатаграфічную выяву, вылучае тры асновы яе прадукавання: святло, аўтар, глядач, дзе святло фарміруе вобраз, аўтар фіксуе, а глядач інтэрпрэтуе.

## КАНЦЭРТЫ

### N.R.M

**15 лістапада а 19-й у клубе «Юла» (Сурганава, 26)** адбудзецца прэзентацыя новага альбома гурту N.R.M. «ДПБЧ».

### Мы цалуем сонца

**16 лістапада а 19-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — гурт Akute з праграмай «Мы цалуем сонца».

### Алесь Камоцкі

**17 лістапада а 19-й у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі** — канцэрт для сяброў Алеся Камоцкага.

### Алег Хаменка

**18 лістапада а 19-й у рок-бары «Крылы» (Даўгабродская, 24)** — сустрэчы-дарэчы з Алегам Хаменкам.

### Neuro Dubel

**18 лістапада а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурту Neuro Dubel.

### Крама

**19 лістапада а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурту «Крама».

### Святло і цені

**19 лістапада а 19-й у рок-бары «Крылы» (Даўгабродская, 24)** — прэзентацыя новага альбома Таццяны Беланогай «Святло і цені».





### Madera Hard Blues

**20 лістапада а 21-й у TNT (Рэвалюцыйная, 9)** — канцэрт гурту Madera Hard Blues.

## ВЫСТАВЫ

### Дэкадзіроўка. Архетып адэкватнага часу

**Да 23 лістапада ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Дэкадзіроўка. Архетып адэкватнага часу», прадстаўленая ў верасні-кастрычніку 2013 г. на 5 Маскоўскай біенале сучаснага мастацтва. У аснову праекта пакладзены роздум аб камунікацыі ў грамадстве, аб самаідэнтыфікацыі чалавека ў метраполіі, аб захаванні індывідуальнасці ў сучасным свеце.

### Сучасны японскі дызайн

**Да 24 лістапада ў гістарычным музеі** працуе выстава «Сучасны японскі дызайн», на якой можна ўбачыць лепшыя ўзоры прамысловага дызайну Японіі 1990—2000, а таксама прадметы дызайну паваеннага перыяду. Гэта прадметы штодзённага ўжытку: мэбля, вопратка, посуд, электрычныя прыборы…

## ТЭАТРЫ

### 15 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Няззваны госць»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 16 лістапада

**Юнага гледача** — «Сакрэт сапраўднага сяброўства»
**Беларускай драматургіі** — «А мне не сорамна»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

### 17 лістапада

**Юнага гледача** — «Сакрэт сапраўднага сяброўства»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 19 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Купала. Кругі раю»

### 20 лістапада

**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 21 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»

### 22 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»

### 23 лістапада

**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Оперы і балета** — «Сем прыгажуняў»

## КІНО

### З кім сябруюць царыцы

Распуцін
Драма, біяграфія, гістарычны
**Рэжысёр:** Жазэ Даян
**У ролях:** Жэрар Дэпардзье, Фані Ардан, Уладзімір Машкоў, Філіп Янкоўскі, Ксенія Рапапорт, Канстанцін Хабенскі
Францыя, Расія, 102 хв.

З глухой сібірскай вёскі ў Пецярбург прыязджае нікому невядомы селянін Распуцін, які валодае неверагодным дарам ацалення. Дзякуючы ўдаве Марыі Галавіной, ён нечакана становіцца папулярным у арыстакратычным асяроддзі. Пасля ацалення царэвіча Аляксея Распуцін хутка ўваходзіць у царскую сям'ю і становіцца для ее «чалавекам Божым». Але не ўсе ў царскай Расеі ўхваляюць блазна, які аказвае вялікі ўплыў на царыцу Аляксандру.

Жэрар Дэпардзье прапануе гледачу сваё бачанне такога спрэчнага гістарычнага персанажа, як Распуцін. Роля блазна ў выкананні французскага акцёра ў асноўным выглядае пераканаўча. Але стужка тым не менш не ўражвае: не хапае драматызму, эмацыйнага ўзаемадзеяння акцёраў, персанажы якіх падаюцца кардоннымі, несапраўднымі, няглядзячы на зорны склад.

Каму варта паглядзець: калі цікавіцеся, як замежныя акцёры граюць расейскіх гістарычных асоб.

Каму глядзець не варта: калі абазнаныя ў гісторыі царскай сям'і і маеце сваё цвёрдае меркаванне, як усё было.

**Настасся Уласава**



# БАТЭ: Дзесяціразовыя!

Барысаўскі клуб правёў **самы складаны сезон.**

Цэнтральны абаронца Ягор Філіпенка робіць лік 1:0. Радавацца яшчэ рана. У мінулым туры БАТЭ таксама быў без пяці хвілін чэмпіёнам, але Дзмітрый Асіпенка з «Шахцёра» перанёс святкаванні.

«Прафесар» Віталь Радзівонаў перарывае сваю «сухую» серыю без забітых галоў і робіць лічбы на табло 2:0. Усё адно яшчэ не час. Наперадзе цэлы тайм. Некалі «Ліверпуль» адыграў 3:0 у «Мілана» ў фінале Лігі чэмпіёнаў. Жодзінскае «Тарпеда», вядома, не «Ліверпуль», але і з імі трэба быць пільнымі.

Адзіны легіянер БАТЭ армянін Завен Бадаян урэшце напрыканцы другога сезона ў клубе забівае свой першы мяч за барысаўцаў — 3:0. Нечаканасцям ужо не быць. БАТЭ — чэмпіён!

Для Віталя Гайдучыка і Іллі Алексіевіча гэта першы трыумф. Хлопцы толькі ў гэтае міжсезонне перайшлі ў БАТЭ з Брэста і Гомеля. Яны бяруць у свае магутныя рукі чэмпіёнскі кубак ды бягуць да фанатаў. Іх у Жодзіне яшчэ болей, чым мясцовых. Салют у гонар перамогі БАТЭ не дазволілі, але фанаты паляць піратэхніку. Міхаіл Сівакоў частуе людзей на трыбунах шампанскім.

Гульцам БАТЭ можна расслабіцца ўпершыню за пяць гадоў. Да гэтага іх заўсёды чакалі матчы ў еўракубках. Сёлета ні Лігі чэмпіёнаў, ні Лігі Еўропы для БАТЭ не будзе. Прыкрая параза ад карагандзінскага «Шахцёра» перакрэсліла ўсе планы.

У чэмпіянаце таксама не было ўсё гладка. Доўгі час лідзіраваў салігорскі «Шахцёр», які нават выйграў першую частку чэмпіяната. Аднак у другой пасыпаўся як карткавы домік, лава запасных была вельмі кароткай, што ўрэшце і сказалася.

Мінскае «Дынама» хутчэй змагаецца само з сабой. Шукае ўнутраных ворагаў, каб потым тытанічна іх перамагаць ці не перамагаць. «Гомель», «Тарпеда» і «Нёман» — занадта сырыя яшчэ, каб зрынуць БАТЭ. Пры ўсім багацці выбару іншай альтэрнатывы няма.

Гэта ўжо дзясяты тытул БАТЭ. Прычым восьмы запар. У Еўропе на сёння толькі адна каманда мае настолькі працяглую серыю — заграбскае «Дынама». Да рэкорда рыжскага «Сконта» засталося пяць чэмпіёнстваў. І калі справы будуць гэтак жа працягвацца далей, то нішто не выглядае фантастычай.

Гэтае чэмпіёнства БАТЭ здабыло з новым трэнерам Аляксандрам Ермаковічам (хай ён і правёў чатыры гульні). Наступны сезон БАТЭ трэба будзе вучыцца гуляць без Ганчарэнкі, а яшчэ без Аляксандра Глеба, які не мае намеру заставацца ў Барысаве.

Гэта ўсё ў будучыні. А пакуль — шампанскае чэмпіёну!

**Зміцер Панкавец**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Фанатам таксама далі патрымаць чэмпіёнскі кубак.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Футбалісты БАТЭ гайдаюць галоўнага трэнера Аляксандра Ермаковіча.**

**Другая зорачка**

Цяпер на эмблеме БАТЭ будзе не адна, а дзве зорачкі. Зорачка малюецца за пяць чэмпіёнскіх тытулаў.

## Сцісла

**«Славія» вылецела**

Мазырская каманда пасля паразы ад «Мінска» (1:2) пазбавілася шанцаў застацца ў вышэйшай лізе футбольнага чэмпіяната Беларусі. На павышэнні прэтэндуюць «Слуцк» і «Гарадзея».

**Фанаты «Гомеля» за байкот**

Найбольш актыўныя фанаты ФК «Гомель» прапануюць байкатаваць наступны сезон, не хадзіць на гульні. Гэта звязана з напружанымі адносінамі фанатаў з супрацоўнікамі міліцыі.

**Хакейная зборная: дзве паразы, адна перамога**

У Аўстрыі прайшоў хакейны таварыскі турнір з серыі «Еўрачэлендж». Першыя матчы на чале зборнай правёў канадзец Глен Хэнлан. У выніку Беларусь прайграла Славеніі і Францыі (па булітах), але выйграла ў Аўстрыі.

**На «Чыжоўцы-Арэне» першы дэбют**

7 лістапада на малой пляцоўцы «Чыжоўкі-Арэны» прайшла сустрэча паміж юнацкімі камандамі з Мінска і Ліды. Увод у эксплуатацыю самой «Чыжоўкі-Арэны» запланаваны на снежань.

**У скачках на батуце — «бронза»**

У балгарскай Сафіі прайшоў Чэмпіянат свету па скачках на батуце. Беларусы прывезлі адзін бронзавы медаль. Трэцяе месца здабытае жанчынамі ў камандным першынстве.

**У Чайкі таксама «бронза»**

Стралок Вікторыя Чайка заняла трэцяе месца на Кубку свету ў Мюнхене. Такі вынік яна паказала ў стральбе з пнеўматычнага пісталета на адлегласці 10 метраў.

ЗП

# ФК «Полацк»: Паўгода без заробкаў, на гульні маршруткай

Самабытная каманда **рызыкуе знікнуць.**




Футбалісты «Полацка» на выхадных не змаглі дабрацца на гульню першай лігі Чэмпіяната Беларусі па футболе ў Слонім.

Дырэктар каманды Яраслаў Камарыцкі эмацыйна зазначыў: «Нас кінулі! Дырэктар клуба проста прапаў». Як стала вядома, дырэктар «Полацка» Уладзімір Арэстаў сапраўды знік пасля адной з гульняў. Дзе ён цяпер, ніхто не ведае.

Пра сітуацыю ў камандзе пагадзіўся расказаць брамнік Віталь Рыдлевіч.

«На апошнія два выезды дабіраліся маршруткамі «Паўночная губернія». Нам ішлі насустрач, вазілі ў пазыку. Перад гульнёй, дзесьці а палове на дванаццатую ночы, патэлефанавалі ды сказалі, што выезду не будзе. Бо не аплацілі папярэднія».

Да жніўня ў «Полацку» гулялі зусім іншыя людзі. Аднак пасля таго, як у камандзе пачаліся фінансавыя праблемы, большасць гульцоў вырашылі звольніцца. Рыдлевіч быў адзіным, каго ўгаварылі застацца.

Цяпер «Полацк» з крэпкага серадняка пераўтвараецца ў беспрасветнага аўтсайдара. Вынікі матчаў таксама гавораць пра многае — 0:7, 0:8.

«Трэніровак як такіх няма. Усе хлопцы працуюць, збіраюцца толькі на гульні, — кажа Віталь Рыдлевіч. — Не шкадую, што застаўся. Цяпер маю некалькі прапаноў ад іншых клубаў».

Заробкі гульцам не плацяць. «Апошні аддалі за чэрвень, на картку залічылі дзесьці 2 мільёны. Мясцовыя футбалісты ўвогуле гуляюць задарма. Летась былі заробкі на ўзроўні першай лігі. Не самыя малыя і не самыя высокія. Выходзіла дзесьці мільёны 4. Плюс клуб аплочваў харчаванне, здымаў кватэры. Сёння вялікія пазыкі перад рэстаранам, з жыллём таксама варыянтаў няма».

Каманда ўвесь другі круг адгуляла без галоўнага трэнера. Былы быў звольнены, а новы так і не прызначаны. Яраслаў Камарніцкі фармальна з'яўляецца старшым трэнерам, аднак сам выходзіць на поле. «Ён добры чалавек, але не трэнер. Сеткі павесіць, поле пафарбаваць, Камарніцкі ўсім гэтым займаецца, а не трэніровачным працэсам».

Была інфармацыя, што «Полацк» можа ўзначаліць вядомы ў краіне спецыяліст Вячаслаў Акшаеў. «Мы таксама чулі. Ён прыязджаў на перамовы, але старшыня гарвыканкама сказаў, што ў яго жніво і часу размаўляць няма. Другі раз Акшаеў не паехаў», — кажа Рыдлевіч.

Дарэчы, менавіта з іменем новага полацкага граданачальніка Мікалая Шаўчука і звязваюць праблемы клуба. «Нікому з чыноўнікаў каманда не патрэбная. Калі нехта з вобласці ці федэрацыі тэлефануе, то кажуць: «Дапаможам, усё будзе добра». На справе ж нічога не рухаецца з мёртвай кропкі».

Па рэгламенце за другі недаезд каманду павінны зняць з розыгрышу чэмпіянату, аднак у федарацыі загадалі, каб «Полацк» дагуляў першынство да канца. Вельмі малыя шанцы, што каманда застанецца налета нават у другім дывізіёне.

ЗП




**Нягледзячы на ўжо згубленую прыгажосць восені, шэрыя хмары і адсутнасць цёплых колераў ва ўсім, Мінск жыве сваім яркім жыццём. Пазачарговы тыдзень моды сагрэў моднікаў і дадаў фарбаў у шэрыя будні тых, хто змог трапіць на паказы.**




**І Ленін такі малады. Камуністы Барысава ўсклалі кветкі да помніка з нагоды 96-х угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі і прынялі ў свае шэрагі другога сакратара раённай арганізацыі БРСМ Віялету Краўцову.**



**Кітайская ветлівасць: удзельнік канферэнцыі Рады XXI стагоддзя накіроўваецца да залы пасяджэнняў. На канферэнцыі традыцыйна збіраюцца высокапастаўленыя эксперты, чыноўнікі і прадпрымальнікі.**




**Такім арыгінальным чынам беларусы шукаюць нявест.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Моўная размінка для вядучых тэлеканалаў: турнуў Тура за Батуру.

* * *

Хлопчык, які скончыў музычную школу па класе трубы, выпальвае цыгарэту за дзве зацяжкі.

* * *

Алімпіяда — гэта сустрэча дэлегатаў з усіх канцоў свету з мэтай паслухаць гімн Кітая.

* * *

Чым больш магутны працэсар на вашым камп'ютары, тым хутчэй са сваімі задачамі справіцца вірус.

* * *

Хлопчык з Афрыкі зляпіў самага дарагога снегавіка ў свеце.

* * *

Самая кепская праца — быць хатняй гаспадыняй. Заробку няма, выхадных няма, адпачынку няма. Работа ніколі не заканчваецца. І пры гэтым муж заўсёды кажа: «Жонка нідзе не працуе, дома сядзіць».

* * *

Суддзя:

— Цішыня! А хто яшчэ раз скажа: «Далоў суддзю!» — пакіне залу.

— Далоў суддзю!

– Абвінавачаны, да вас гэта не адносіцца.

* * *

Купляючы віно, хлопчыку давялося пераказаць некалькі серый «Санта-Барбары», каб даказаць, што яму ёсць 18 гадоў.

* * *

Калі ноччу выйсці з вясковай дыскатэкі ды глянуць у зорнае неба, то з носа перастае цячы кроў.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нягледзячы на тое, што рух расце,** што свядомыя беларусы і ўсе сумленныя людзі дамагаюцца належнага месца для прабудзіўшайся нацыі, — гэтага месца нам дагэтуль не даюць на нашай уласнай зямлі. Не даюць яго ні ў школе, ні ў царкве, ні ў касцёле, для таго, што нам так міла і дорага: для роднай мовы беларускай.

**«НН». №46. 1913.**

**Пацёмкінская сталіца.** Вялікія перамены ў вобразе Мінска навідавоку. Самай яскравай з'явай апошняга часу стала рэканструкцыя тэрыторыі паміж Верхнім горадам і Замчышчам. Увесь верасень і кастрычнік там шчыравала тэхніка: раўлі бульдозеры, ездзілі тудысюды грузавікі. Праз увесь пагорак пралегла даўжэзная лесвіца, з'явіліся лавачкі, ліхтары.

**«НН». №42. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8050. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 12.11.2013.
Замова №4901.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13042

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12